











АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА | РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ

# Голас Радзімы

2 жніўня 2000 года
Цана 85 рублёў

№ 31 (2693)

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі
Выдаецца з 6 красавіка 1955 года

БЕЛАРУСЬ І ААН

ЗГОДНА З РЭЙТЫНГАМ, ПРАДСТАЎЛЕНЫМ У ГЛАБАЛЬНАЙ СПРАВАЗДАЧЫ ПРААН ЗА 2000 ГОД, БЕЛАРУСЬ ЗАЙМАЕ 57 МЕСЦА Ў СПІСЕ 174 КРАІН ПА ІНДЭКСУ ЧАЛАВЕЧАГА РАЗВІЦЦЯ.

## «ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА І ЎСТОЙЛІВАЕ РАЗВІЦЦЁ»

(З ДАКЛАДА ПРААН АБ РАЗВІЦЦІ ЧАЛАВЕКА ЗА 2000 ГОД)

Індэкс чалавечага развіцця — гэта камбінаваны паказчык, які адлюстроўвае дасягненні кожнай краіны ў галіне даўгалецця насельніцтва, павышэння яго адукацыі і забеспячэння належнай якасці жыцця. Пры падліку індэкса эксперты абапіраюцца на даныя пра чакаемую працягласць жыцця пры нараджэнні (даўгалецце), ахоп насельніцтва ўстановамі пачатковай, сярэдняй і вышэйшай адукацыі (узровень адукацыі), а таксама памер ВУП на душу насельніцтва па парытэту пакупной здольнасці (дастатак).

З былых рэспублік Савецкага Саюза па індэксу чалавечага развіцця Беларусь апярэджваюць толькі Эстонія (46 месца) і Літва (52); Расія займае 64 месца, Латвія — 63, Грузія — 70, Казахстан — 73, Украіна — 78, Азербайджан — 90, Арменія — 90, Кыргызстан — 98, Туркменістан — 100 месца, Малдова — 102, Узбекістан — 106, Таджыкістан — 110 месца. У той жа час Беларусь уваходзіць у лік 22 краін, дзе абсалютны паказчык індэкса чалавечага развіцця знізіўся за перыяд з 1990 па 1998 год.

У справаздачы прадстаўлены статыстычныя даныя пра поспехі і няўдачы розных краін, у тым ліку і Беларусі, у рэалізацыі правоў і свабод людзей. Заслугоўваюць увагі наступныя лічбы:

● Сярэдні даход 20 працэнтаў найбольш забяспечаных грамадзян Беларусі менш чым у тры разы перавышае сярэдні даход самых бедных яе грамадзян. Па гэтым паказчыку "раўнамернасці размеркавання грамадскага даходу паміж усімі членамі грамадства" Беларусь знаходзіцца на другім месцы ў рэгіёне СНД і Усходняй Еўропы, нязначна ўступіўшы толькі Славакіі. На Украіне сярэдні даход "самых багатых 20 працэнтаў" перавышае сярэдні даход "самых бедных 20 працэнтаў" амаль у пяць разоў, а ў Расіі — у 12 разоў. Пры гэтым рэалізацыя права беларускіх грамадзян на належны ўзровень жыцця па-ранейшаму застаецца надзвычай актуальнай задачай. Даходы амаль паловы беларусаў не перавышаюць дзвюх трэціх мінімальнага спажывецкага бюджэту.

● У 1994 годзе ў Беларусі было зарэгістравана 1 161 злачынства на 100 тысяч насельніцтва (сярэдні паказчык па краінах СНД складае каля 870 зарэгістраваных злачынстваў на 100 тысяч насельніцтва). Найменшая колькасць злачынстваў на душу насельніцтва рэгіструецца ў Сірыі (16 на 100 тысяч), Егіпце (36), на Мадагаскары (75), Інданезіі (80) і Філіпінах (139), тады як у Канадзе — 9 982, Даніі — 10 508, Швецыі — 12 671.

● Па колькасці зняволеных на душу насельніцтва Беларусь уваходзіць у тройку сусветных лідэраў — 477 на 100 тысяч насельніцтва. Першае месца займае Расія — 580 зняволеных на 100 тысяч насельніцтва; на другім — ЗША (554).

● Нягледзячы на досыць нізкі ўзровень смяротнасці немаўлят (22 выпадкі на 1 000 жыванараджэнняў), Беларусь з'яўляецца адзінай краінай у свеце, дзе гэты паказчык не змяніўся ў параўнанні з 1970 годам. За выключэннем Арменіі і Ірака, у якіх смяротнасць немаўлят павялічылася, усе астатнія дзяржавы свету дабіліся памяншэння гэтага паказчыка. У найбольш развітых краінах ён складае 4—8 выпадкаў на 1 000 жыванараджэнняў. Беларусь займае 10 месца ў свеце па колькасці ўрачоў на душу насельніцтва (379 на 100 тысяч) і 6-е месца — па колькасці медсясцёр (1 160 на 100 тысяч).

● Кожны чацвёрты грамадзянін Беларусі, які нарадзіўся ў 1998 годзе, не дажыве да 60 гадоў. Беларусь уваходзіць у лік 17 краін свету, у якіх да 2015 года насельніцтва паменшыцца. У 1996 годзе ў Беларусі на кожныя 100 шлюбаў было зарэгістравана 68 разводаў (другое месца ў СНД і Усходняй Еўропе пасля Эстоніі).

● Калі па колькасці тэлефонаў на душу насельніцтва Беларусь займае першае месца ў СНД (241 на 1 000 чалавек), мабільнымі тэлефонамі ў Беларусі карыстаецца толькі адзін чалавек з тысячы (на Украіне — 3, у Расіі — 5, Эстоніі — 170, Японіі — 374, Фінляндыі — 891, ЗША — 1 127).

Эксперты ПРААН звяртаюць увагу на тое, што ўстойлівае развіццё любой краіны немагчымае без уліку інтарэсаў кожнага канкрэтнага чалавека і без апоры на шырокі ўдзел людзей. А гэта, у сваю чаргу, мае на ўвазе выкананне і абарону правоў чалавека.

**Матэрыял прадастаўлены Прадстаўніцтвам ААН у Рэспубліцы Беларусь.**

АСОБА




Леанід, Іван і Пётр Шаўрэі з Нараўлянскага раёна прайшлі сапраўды вогненны шлях: у час чарнобыльскай катастрофы браты-пажарныя прымалі актыўны ўдзел у ліквідацыі вынікаў выбуху на чацвёртым энергаблоку. Сёння ў страі толькі адзін з іх — Іван, старшыня пажарнага падраздзялення ў Нароўлі. Яго сын Аляксей па прыкладу бацькі таксама выбраў для сябе шлях пажарнага. Аляксей Шаўрэй — курсант Гомельскага вышэйшага каманднага вучылішча МНС. Ён вельмі ганарыцца тым, што ў музеі вучылішча цэлы раздзел прысвечаны геранчнаму ўчынку братоў Шаўрэяў, прадаўжальнікам справы якіх ён з'яўляецца.

НА ЗДЫМКУ: курсант Аляксей ШАЎРЭЙ у музеі вучылішча.

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА,** БелТА.

ЭКАЛОГІЯ




**Багата сёлетнім летам вады на Гомельшчыне. У горадзе забіваюцца ліўневыя адводы, на вёсцы глеба раскісла так, што трактарам не заехаць. Дачнікі спачатку не маглі нарадавацца дажджу, а зараз з трывогаю пагляда-юць на неба. Хлопцам было раздолле — хоць басанож, хоць на веласіпедзе па лужынах гойсай! Аднак і яны здаволіліся.**

Як паведамілі ў аддзеле аграпрагнозаў Беларускага гідраметцэнтра, толькі за дзве першыя дэкады ліпеня амаль па ўсёй тэрыторыі краіны выпала месячная і больш норма ападкаў.

Максімальную іх колькасць — у 1,5—2 разы больш за ліпеньскую норму — адзначылі метэастанцыі Гродзенскай, Віцебскай, Магілёўскай і Гомельскай абласцей. У прыватнасці, у Слаўгарадзе толькі за 20 дзён выпала 2,5 месячнай нормы ападкаў. Значныя дажджы выклікалі ў многіх раёнах, асабліва ў паўночным рэгіёне, пераўвільгатненне глебы. У шэрагуназіраемых участкаў Віцебскай, Гродзенскай, Мінскай і месцамі ў іншых абласцях у паўметровым слоі глебы запасы вільгаці павялічыліся да 130—165 міліметраў, на асобных участках — да 190—200 міліметраў, што даволі многа. Вільготнае надвор'е стварыла ўмовы для развіцця фітафторы — хваробу (праўда, пакуль месцамі) адзначаюць ва ўсіх абласцях. Развіццё яна можа атрымаць пры захаванні ўмеранага тэмпературнага рэжыму і вільготнасці. Пераўвільгатненне адбіваецца на распаўсюджванні хвароб на збожжавых культурах, павялічанай вільготнасці збожжа.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

(Працяг тэмы на 2-й —3-й стар.).

ЭКАЛОГІЯ

# НЕБА Ў АЗОНАВЫХ ДЗІРКАХ

**● Сняжана МІХАЙЛОЎСКАЯ.**

Агульнавядома, што пачынаючы з 70-х гадоў ідзе глабальнае памяншэнне колькасці стратасфернага азону на 4—5 працэнтаў за дзесяцігоддзе. Чым гэта абернецца для жыхароў нашай планеты? Што садзейнічае разбурэнню азонавага слоя ў атмасферы, якія меры па яго захаванню прадпрымаюцца? Даследаваннямі ў гэтай галіне займаюцца ў Нацыянальным навукова-даследчым цэнтры маніторынгу азонасферы Беларускага дзяржуніверсітэта. Свае пытанні я і адрасавала супрацоўнікам цэнтра. Расказвае дырэктар цэнтра кандыдат фізіка-матэматычных навук **Аляксандр КРАСОЎСКІ**:

— Змяненне стану азонасферы можа істотна паўплываць на радыяцыйны баланс зямля—атмасфера і прывесці да непрадказальных вынікаў для клімату планеты. Слой жа стратасфернага азону амаль цалкам паглынае даволі небяспечнае для жыцця "біялагічна актыўнае" ультрафіялетавае выпраменьванне, а яго вычарпанне вядзе да разбурэння існуючага біягенезу акіяна ў выніку гібелі планктону ў экватарыяльнай зоне, прыгнечанню росту раслін, рэзкаму павелічэнню захворванняў вачэй і на рак, а таксама хвароб, звязаных з паслабленнем імуннай сістэмы чалавека і жывёл, карозіі металаў і гэтак далей. Нават 5-працэнтнае памяншэнне колькасці азону павялічвае на 14 працэнтаў верагоднасць захворвання найбольш распаўсюджанай формай немеланомнага раку скуры і на 25 працэнтаў — яго разнавіднасцю, якая найбольш часта прыводзіць да смяротнага выніку.

Праблема абароны насельніцтва ад павышаных доз ультрафіялетавага выпраменьвання асабліва актуальная для Беларусі, якая найбольш пацярпела ад радыеактыўнага забруджвання вялікіх тэрыторый у выніку чарнобыльскай аварыі.

Другая праблема — парніковы эфект. Ён нясе з сабою пагрозу змянення клімату і надвор'я на зямным шары і можа прывесці да паступовага глабальнага пацяплення ў наступным стагоддзі. І, нарэшце, прызямны азон, той самы, павелічэнне канцэнтрацыі якога залежыць ад такіх забруджвальнікаў, як окіслы азоту, серы, вугляроду, якія з'яўляюцца вынікам уздзеяння чалавека на навакольны свет. Прырода проста не можа справіцца з іх нейтралізацыяй. У Еўропе больш за 200 станцый назірання праводзяць рэгулярныя вымярэнні прызямнога азону. Выяўлена, што ва ўмовах перавагі заходніх вятроў яго канцэнтрацыя (і, дарэчы, многіх іншых забруджвальнікаў) узрастае пры руху ад Вялікабрытаніі на ўсход, да самай Расіі. На жаль, даведацца, якая канцэнтрацыя зямнога азону ў нашай рэспубліцы, мы пакуль не можам: у нас да гэтага часу няма прыбора, які адпавядае міжнародным стандартам. Хаця праблема пераносу забруджанага паветра на вялікія адлегласці ўжо разглядаецца на міжнародным узроўні ў Еўропе, і многія краіны патрабуюць матэрыяльнай кампенсацыі за забруджванне свайго паветранага басейна...

**Аляксандр ЛЮДЧЫК**, загадчык лабараторыі фізікі атмасферы, кандыдат фізіка-матэматычных навук:

— Рэгулярныя назіранні за станам азонасферы над тэрыторыяй Беларусі вядуцца пры дапамозе распрацаванага ў нас універсальнага сонечнага ультрафіялетавага спектрометра-азонаметра "Пион", які ў 1996 годзе паспяхова прайшоў параўнальныя выпрабаванні з рэгіянальным эталонам Сусветнай метэаралагічнай станцыі ў Санкт-Пецярбургу. Зараз азонаметрычная станцыя нашага цэнтра ўключана ў сусветную азонаметрычную сетку і перадае вынікі назіранняў у Сусветны банк даных па азону (Канада).

Аднак вывучэнне стану азонавага слоя — толькі частка маніторынгу атмасферы. Акрамя гэтага, вызначаецца ўзровень утрымання аэразоляў (часцінак бруду і пылу) у паветры, канцэнтрацыі парніковых газаў, назіранне за пераносам рэчываў, што забруджваюць, на далёкія адлегласці, уключаючы кіслотнасць і таксічнасць дажджоў. Для захавання азонавага слоя ў нашай рэспубліцы практычна на ўсіх прадпрыемствах-спажыўцах азонаразбураючых рэчываў распрацаваны планы мерапрыемстваў па іх выключэнню з працэсу вытворчасці і пераводу на азоназберагальныя тэхналогіі. Напрыклад, Брэсцкі завод бытавой хіміі спыніў выкарыстанне ў якасці прапелентаў хлор-фторвугляродаў, замяніўшы іх прапанбутанавай сумессю, і гэтым скараціў выкіды азонаразбуральных рэчываў у атмасферу на 1 100 тон у год.

"Азонавая праблема" паказвае, наколькі мы ўсе ўразлівыя на нашай планеце. Захаванне азонавага слоя — неабходная ўмова выжывання чалавецтва. І ў Беларусі, як бачым, усвядомліваюць, што калі мы будзем ведаць пра вынікі антрапагеннага ўздзеяння на азонавы слой, лягчэй будзе прымаць сучасныя меры для таго, каб выжыць самім і пакінуць нашчадкам зямны дом, прыгодны для жыцця.

СУЧАСНЫЯ РЭАЛІІ

# БЕЛАРУСКІ СТРАХАВЫ РЫНАК І ЯГО ЎДЗЕЛЬНІКІ

У Беларусі страхавы рынак пачаў развівацца з 1991 года. За гэты час з'явілася каля 120 страхавых арганізацый, з якіх па сённяшні час дзейнічаюць толькі 40. Прычына знікнення астатніх — фінансавыя праблемы. Першае месца ў рэйтынгу страхавых кампаній займае Белдзяржстрах — дзяржаўная арганізацыя, створаная Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь і яму падпарадкаваная. У ліпені Белдзяржстрах падвёў вынікі за першае паўгоддзе 2000 года.

За названы перыяд кампанія мабілізавала 8,3 мільярда рублёў страхавых узносаў. У студзені—маі праведзена каля 35 тысяч выплат страхавой кампенсацыі і страхавога забеспячэння на суму звыш 2,5 мільярда рублёў. На 1 красавіка сума страхавой адказнасці па дагаворах дасягнула 2,8 трыльёна рублёў з улікам дэнамінацыі.

Асноўныя напрамкі дзейнасці Белдзяржстраха — абавязковае страхаванне будынкаў, што належаць грамадзянам (уведзена з 1998 года), і добраахвотнае страхаванне маёмасных і немаёмасных інтарэсаў грамадзян. За першыя пяць месяцаў бягучага года з насельніцтвам заключана 390 609 дагавораў добраахвотнага страхавання (у асноўным гэта страхаванне хатняй маёмасці, страхаванне ад няшчасных выпадкаў і г. д.). Летась таксама ўведзена абавязковае страхаванне грамадзянскай адказнасці ўладальнікаў транспартных сродкаў. Ліцэнзію на гэты від дзейнасці атрымалі дзевяць страхавых арганізацый, у тым ліку і Белдзяржстрах. Як падкрэсліў Віктар Шуст, генеральны дырэктар Белдзяржстраха, амаль 70 працэнтаў уладальнікаў аўтамабіляў для заключэння дагавораў звярнуліся менавіта ў іх кампанію. У выніку за год, што прайшоў з моманту ўвядзення дэкрэта ў дзеянне, Белдзяржстрах сабраў страхавыя ўзносы на суму 5,5 мільярда рублёў, кампенсаваў 2,2 мільярда рублёў.

Апошняя ініцыятыва Белдзяржстраха — яе ўжо падтрымалі 20 буйных страхавых арганізацый краіны — стварэнне прафесіянальнага аб'яднання беларускіх страхаўшчыкоў. Асноўная мэта аб'яднання, як адзначыў Віктар Шуст, — праца ў сферы страхавога заканадаўства, якое не адпавядае сучасным патрабаванням і ўзроўню развіцця страхавога рынку. Але галоўнай і, на жаль, нявырашанай застаецца праблема кампенсацыі "з'едзеных" інфляцыяй страхавых узносаў па дагаворах 80-х—90-х гадоў. Пагашэнне адных толькі дагавораў страхавання жыцця па стану на 1 студзеня 1992 года патрабуе 127,2 мільярда рублёў. Але "па прычыне адсутнасці такіх сродкаў" вырашыць праблему без дапамогі і падтрымкі дзяржавы Белдзяржстрах не мае магчымасці.

**Нэлі ДЗЕНІСЕНКА.**

ЛЕТА, КАНІКУЛЫ...






Лета — любімая пара ўсёй дзятвы. Але ж бацькам канікулы звычайна прыносяць дадатковыя клопаты: найперш, куды адправіць сына ці дачку на адпачынак. Пашанцавала тым, хто мае магчымасць атрымаць на прадпрыемстве, дзе працуе, пуцёўку ў дзіцячы летні лагер: лепшага месца для аздараўлення і адпачынку за чыста сімвалічную плату (бацькі выплачваюць толькі 10 працэнтаў ад поўнага кошту пуцёўкі) і прыдумаць нельга. Вось толькі, на жаль, з кожным годам летнікаў становіцца менш і менш: далёка не ўсе арганізацыі і прадпрыемствы зараз у стане ўтрымліваць падобныя аб'екты на сваім балансе.

Пэўнай альтэрнатывай загарадным летнім лагерам могуць лічыцца дзённыя лагеры пры школах. Адпачыць і ў горадзе можна цікава і карысна. Чаго толькі вартыя шматлікія атракцыёны ў парках, якія летам працуюць на поўную моц. І хаця тэхнікай і сучаснымі дасягненнямі цяперашнюю моладзь здзівіць цяжка, нязменным поспехам сярод мінскай дзятвы карыстаецца атракцыён, на якім забаўляліся яшчэ іх бацькі. Дзіцячай чыгунцы ў сталічным парку Чэлюскінцаў — размова ідзе менавіта пра яе — споўнілася ўжо 45! Але і сёння за летнія месяцы яна перавозіць аж 50 тысяч юных пасажыраў!

Ёсць у моладзі і свае "культавыя" месцы. Напрыклад, 10 гадоў таму, адразу пасля смерці папулярнага спевака Віктара Цоя, у цэнтры Мінска з'явілася так званая "сцяна Цоя". У любое надвор'е каля гэтага "помніка" збіраюцца юныя паклоннікі спевака, якіх асабліва шмат падчас летніх канікулаў.

...Лета прабягае вельмі хутка, але заўсёды, прынамсі, у дзяцінстве, застаецца ў памяці яркім і незабыўным. Нават пры самых сціплых магчымасцях дарослых.

**Фота БелТА.**



**НА ЗДЫМКАХ:** машыніст цягніка Дзіцячай чыгункі Жэня КІШКУРНА; "сцяна Цоя" ў Мінску; дзіцячы аздараўленчы лагер на Брэстчыне.



ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ



*26 красавіка — чорны дзень у гісторыі Беларусі. Але мы, здаецца, ужо звыкліся з ім, і чарнобыльская трагедыя пасапраўднаму згадваецца толькі раз на год — напярэдадні гэтай даты. Магчыма, спрацоўвае ахоўная функцыя чалавечага розуму: нельга жыць у пастаянным страху за жыццё і здароўе сваё і сваіх блізкіх.*

*Вядомы пісьменнік, лаўрэат Міжнароднай літаратурнай прэміі імя Ф. Нансена Васіль ЯКАВЕНКА займаецца чарнобыльскай тэмай пастаянна. У 1990 годзе ён утварыў Беларускі сацыяльна-экалагічны саюз "Чарнобыль". А ў студзені 1989 года адбылося сенсацыйнае выступленне В. Якавенкі на пленуме Саюза пісьменнікаў СССР, дзе ён першым публічна расказаў праўду пра ўздзеянне радыяцыі на здароўе людзей.*

# КАБ ПРЫПЯЦЬ НЕ СТАЛА *ЛЕТАЮ*

**— Васіль Цімафеевіч, чаму менавіта пісьменнік першым выступіў на гэтую тэму?**

— І медыкі, і вучоныя ведалі ўсё, можа, не горш за мяне, гэта натуральна. Але баяліся казаць праўду, бо працавалі ў дзяржаўных установах. Пісьменнікі ж, калі не маюць чыноўнай пасады, — птушкі вольныя.

**— Якая была рэакцыя на ваша выступленне?**

— Яна ашаламіла аўдыторыю, у друку ж падобных публікацый яшчэ не было. Да 1989 года ўсе матэрыялы пра ўздзеянне радыяцыі ішлі пад грыфам "сакрэтна". Маўчалі і дэпутаты.

Пімен Панчанка пасля напісаў мне, што адчувае віну за тое, што ведаў праўду і таксама маўчаў. Таму многім выступленне проста раскрыла вочы на Чарнобыль, а калегам было за прыклад.

**— Вы не пабаяліся назваць злачынцамі самых высокапастаўленых чыноўнікаў краіны...**

— Ужо ў першыя тыдні пасля аварыі трэба было абвясціць Беларусь тэрыторыяй экалагічнага бедства. Але ад народа ўпарта ўтойвалі сам факт катастрофы. У Гомелі, Хойніках, Брагіне і іншых райцэнтрах з высокім радыеактыўным фонам, як вядома, праводзіліся першамайскія дэманстрацыі. Мала таго, у парках Брагіна і Хойнікаў наладжваліся футбольныя спаборніцтвы і масавыя гулянні. Пра крывадушныя паводзіны тагачаснай вышэйшай адміністрацыі рэспублікі сведчыць і эпізод з прыездам Мікалая Слюнькова, першага сакратара ЦК КПБ, у зону радыеактыўнага забруджвання. Запэўніваючы людзей у тым, што жыць тут можна і прамянёвая хвароба нікому не пагражае, ён, тым не менш, вазіў з сабой чыстыя мінскія прадукты і посуд. І так рабілі многія кіраўнікі. Худасочная інфармацыя пра аварыю з'явілася ў некаторых газетах пацярпелых раёнаў толькі праз паўтары-два тыдні пасля аварыі на рэактары. Утойванне рэальнага маштабу катастрофы павялічыла шкоду, якую яна нанесла, у шмат разоў.

Але ніводзін чыноўнік так і не быў прыцягнуты да адказнасці. А тыя, каго судзілі, невядома, ці вінаватыя. Магчыма, проста, як кажуць, знайшлі крайніх.

Такім чынам, галоўны вынік таго майго выступлення, як мне цяпер бачыцца, у прарыве інфармацыйнай блакады — яно атрымала шырокі рэзананс. Мае артыкулы потым друкавалі адразу некалькі газет. Так тэма Чарнобыля пачала сістэмна ўздымацца ў прэсе.

**— А пасля з'явілася і газета "Набат"...**

— Яна была той трыбунай, з якой мы даносілі праўду ў процівагу афіцыйнай дэзінфармацыі. Тыраж для сацыяльна-экалагічнага выдання быў вялізны — напрыканцы 61 тысяча! І, што дзіўна, газету чыталі і ў Хабараўскім краі, Камсамольску-на-Амуры, Комі АССР. Кніга "Лісты да жывых" — як бы працяг "Набату" і помнік яму.

**— У кнізе многа сенсацыйнага матэрыялу. Напрыклад, вы пішаце, што радыяцыйныя хмары, якія рухаліся ад Чарнобыля на ўсход на Маскву, былі "расстраляны" і выпалі асадкамі над Беларуссю...**

— Я заўсёды здзіўляўся, чаму прыгранічныя раёны такія забруджаныя. Пачаў супастаўляць розныя даныя, слухаў расказы людзей пра тое, як гэтыя хмары раптам апускаліся на зямлю, а пасля дажджу з'яўляліся жоўтыя лужы. Вывад напрошваўся сам. І мяне ніхто не аспрэчвае, бо іншага тлумачэння проста няма.

Пры Гарбачове, калі яшчэ быў Савецкі Саюз, было запланавана адшкадаваць Беларусі ў сувязі з катастрофай 30 мільярдаў рублёў. Тады долар і рубель амаль раўняліся. Ну а выдалі нам недзе каля 1 мільярда. А паколькі Расія — пераемніца СССР, трэба было б чакаць, што яна хоць трохі гэты доўг пакрые. Пасля таго, як Масква абаранілася ад радыяцыі за кошт Беларусі, гэта было б справядліва. Нават Канада атрымала кампенсацыю ў памеры 4 мільёнаў долараў, хаця колькасць радыенуклідаў, што выпалі на яе тэрыторыю, непараўнальная з Беларуссю. Мы павінны шукаць дапамогі, бо самім нам праблему Чарнобыля не вырашыць.

**— Колькі беларускіх земляў радыяцыйна забруджаны?**

— Вучоныя называюць лічбу: 23 працэнты тэрыторыі Беларусі забруджана радыенуклідамі. Але ж гэта не ўсё. Напрыклад, ёднымі воблакамі было пакрыта 80—85 працэнтаў. Замеры вядуцца па цэзію, а будзе ж яшчэ ўздзейнічаць і стронцый, і плутоній, які ператвараецца ў рутэній. А рутэній — самае ядавітае рэчыва. Акрамя таго, выпарыўся і апаў з дажджом свінец, якім закідвалі рэактар. Яго цяпер знаходзяць у многіх мацярок у грудным малацэ. А ён не менш ядавіты. 840 тысяч чалавек па-ранейшаму жывуць на забруджаных землях. Хаця гэта ўжо мала пра што і гаворыць, бо "зона" цяпер не толькі каля Чарнобыля. Яна па ўсёй краіне. Акадэмік Казначэеў з Новасібірска прыводзіць вынікі даследаванняў: на дазіметры правяралі бульбу — ніякай радыяцыі. А паглядзелі на мікраклепторным узроўні — яна ад радыяцыі ўся ззяе. Такія прадукты свабодна прадаюцца ў нас па ўсёй краіне. У выніку ўжо 30 працэнтаў беларусаў хварэюць на шчытападобную залозу. Далей ідуць захворванні крыві, страўніка, органаў дыхання. "Набат" першым узняў праблему хранічнай прамянёвай хваробы — яе нават няма ў рэспубліканскім рэестры хвароб, хаця многія з ліквідатараў ужо памерлі.

**— Ваш саюз "Чарнобыль" займаецца таксама аздараўленнем пацярпелых ад аварыі?**

— Так, мы спрабавалі і спрабуем нешта рабіць. Аздараўлівалі дзяцей за мяжой. У 1992 годзе разам з японскімі партнёрамі адкрылі санаторый пад Мінскам. Эфектыўнасць аздараўлення ў ім была ледзь не самай высокай па краіне, але мы змаглі ўтрымліваць яго толькі 4 гады.

Зараз працуем над аздараўленчай праграмай "Гарт". Пад Геленджыкам плануем пабудаваць спецыяльны цэнтр — аздараўленчы, навучальны і духоўны адначасова. Другі такі цэнтр мяркуем размясціць на Азоўскім моры. У планах таксама і цэнтр нетрадыцыйнай медыцыны пад Мінскам. Зрэшты, у рэалізацыі планаў, здаецца, мы сталі бліжэй да яго. Тут у нас больш канкрэтыкі і рэальных партнёраў. Акрамя таго, наш саюз мае патэнт на вывядзенне радыенуклідаў з дапамогай метаду лячэбнага галадання. Калі атрымаем крэдыты, зможам адкрыць санаторна-курортную базу і ў Балгарыі. За гэта ўзяліся наш саюз, прадпрыемства "Чарнобыль. Поўдзень. Рэкрэацыя", а таксама "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына". Чакаем падмогі.

**— Якую экалагічную акцыю лічыце сваёй самай яскравай перамогай?**

— Па ініцыятыве нашых пісьменнікаў і маёй асабіста ў 1988 годзе была праведзена міжрэспубліканская канферэнцыя. На ёй прысутнічалі кіраўнікі Беларусі, навукоўцы, якія падпісвалі прысуд Прыпяці. Гэта азначала, што з ракі зробяць канаву, землі, адрэзаныя ад яе рэчышча, прыйдуць у запусценне. Мы не дазволілі такога, перакрэслілі праект, зблыталі планы, і гэта была перамога еўрапейскага маштабу.

**— Вашы прагнозы на будучыню?**

— Адбываецца глабальнае забруджванне атмасферы і зямлі. Кіраўнікі ўсіх краін павінны ўсвядоміць гэтую небяспеку і памяняць эканамічную палітыку. Напрыклад, падаткі браць не з колькасці зробленага на гэтай зямлі, а з плошчы арэнды, з выкарыстання неаднаўляемай сыравіны і рэсурсаў (арэндная рэнта). Тады з'явяцца новыя зберагаючыя тэхналогіі. Інакш будучыя пакаленні беларусаў, дый не толькі іх, можа напаткаць неўзабаве экалагічны апакаліпсіс.

**Гутарку вяла Нэлі ПРЫВАЛАВА**

***Для зацікаўленых паведамляем адрас Беларускага сацыяльна-экалагічнага саюза "Чарнобыль": Рэспубліка Беларусь, 220002, г. Мінск, вул. Крапоткіна, 44, тэл. (37517) 234-2241, факс (37517) 210-1880.***

ЖЫЦЦЁВЫЯ СЮЖЭТЫ

# ЖЫВЕ ТАКІ ХЛОПЕЦ...

Заўсёды прыемна пісаць пра нестандартных, неардынарных людзей, пра якіх можна сказаць: адзіны. А калі герой будучай публікацыі яшчэ і твой калега, то тут ужо за пяро бярэшся з асобым энтузіязмам.

У даным выпадку гаворка пойдзе пра раённага журналіста з горада Крычава, што ў Магілёўскай вобласці, — Міхаіла Розанава. Галоўная яго рыса — высокая самадысцыпліна, на аснове якой і будуецца незвычайнасць яго асобы. Асаблівасць у тым, што тры разы на дзень — і ў ліпеньскую спёку, і ў трыццаціградусныя калядныя маразы — бярэ ён у рукі вядро і ідзе да калодзежа, каб абліцца на свежым паветры сцюдзёнай вадой. Але і гэта не ўсё — раз на тыдзень на працягу паўтара сутак ён нічога не есць і не п'е. Кожны дзень займаецца у-шу — гімнастыкай для дыхання. Тры разы на тыдзень бегае 12-кіламетровыя кросы. А яшчэ займаецца ўсходнімі адзінаборствамі. Да таго ж — ні кроплі спіртнога, ні грама нікаціну.

Гэта тое, што характарызуе яго фізічны стан. А як жа — інтэлект, душа? І тут Розанаў на вышыні. Ён няблага знаёмы з сусветнай літаратурай. Да гэтага яго абавязвае не столькі дыплом Літаратурнага інстытута імя Горкага, колькі імкненне павышаць свой агульнаадукацыйны ўзровень. Міхаіл ведае на памяць шмат з Пушкіна, Лермантава, Ясеніна: звыш 1 200 вершаў, раман "Яўгеній Анегін", паэмы "Медны коннік", "Мцыры", "Палтава", "Ганна Снегіна".

Гэта калі гаварыць пра высокае. А як жа працоўныя будні? Шмат цікавых і разнастайных матэрыялаў на шматлікія тэмы знаходзяць за подпісам Розанава чытачы мясцовай раённай газеты.

— Для чаго такая жорсткая самадысцыпліна, несупынныя трэніроўкі цела і інтэлекту? — запытаў я ў Міхаіла.

— Каб лепш, цікавей было жыць, — адказвае ён. — Штодзённыя трэніроўкі прыносяць столькі задавальнення, што звычайны дзень ператвараецца ў сапраўднае свята. Каб вы толькі ведалі, якая гэта асалода — прабегчы дванаццаць кіламетраў сцюдзёным ветраным днём ці выйсці на двор і выліць на сябе пару вёдзер вады са студні! У такія хвіліны хочацца пець! Адчуваеш сябе так, быццам з вадой з цябе зляцела некалькі гадоў.

Міхаілу зараз крыху за сорак. Па яго словах, ён сябе адчувае так лёгка і свежа, як не было нават і ў ранняй маладосці.

Відавочна, што такое цудоўнае самаадчуванне, жыццёвая напоўненасць не могуць падтрымлівацца толькі адной фізічнай закалкай. Галоўнай умовай унутранага стану Міхаіл лічыць любоў і дабрыню, добразычлівасць да людзей і навакольнага асяроддзя. Кожны дзень на ноч і кожную раніцу шэпатам некалькі разоў паўтарае, як малітву: "Няхай усюды будзе парадак і спакой. Няхай ніхто ніколі не ведае ні гора, ні хвароб. Няхай усе будуць шчаслівыя". Асабліва часта гэтыя словы ён паўтарае ў цяжкія хвіліны, калі дрэнны настрой, раздражненне, хочацца злавацца і спрачацца... І знікае тусклы туман, вяртаецца раўнавага і добры настрой.

Ніхто не стане пярэчыць супраць таго, што абліванне ледзяной вадой, бег, гімнастычныя і дыхальныя практыкаванні, захаванне пастоў, правільнае харчаванне — толькі на карысць чалавеку, умацоўваюць душу і цела. Але што дае пастаяннае завучванне вершаў? Імкненне даказаць сабе, што і гэта табе пад сілу?

— Спачатку быў азарт, імкненне чымсьці вызначыцца, — гаворыць Міхаіл. — Але хутка зразумеў, што ўжо не магу без гэтага, як без паветра ці штодзённага аблівання. Соль культуры — паэзія. Вершаванне — найбольш высокая правва духу. У вершах заключана столькі духоўнай энергіі, што пастаяннае іх завучванне і паўтарэнне абагачае.

Без сумнення, літаратар з такім веданнем паэзіі рана ці позна пачынае сам ствараць вершы. Паэзія для Міхаіла — і магчымасць самавыяўлення, і яшчэ адна форма ўдасканалення.

**Аляксандр ДЫНІКАЎ.**

ПАДАРОЖЖЫ



Сем членаў клуба "Паўночны мядзведзь" з горада Каеркана, што пад Нарыльскам (Расія), накіраваліся з беларускай сталіцы на Сахалін на матацыклах Мінскага матавелазавода. За паўтара месяца адважным падарожнікам давядзецца пераадолець на двухкалёсных машынах каля 12 тысяч кіламетраў. Прадпрыемства, якое дало тэхніку ўдзельнікам экспедыцыі, гарантавала яе прыгоднасць для такіх вандровак.

НА ЗДЫМКУ: удзельнікі экспедыцыі.

**Фота Віктара ТАЛОЧКІ, БелТА.**

ПОСПЕХ!

## ГАРАЧАЕ "ЗОЛАТА" АНТАЛІІ

Сярэдзіна ліпеня для юных біёлагаў нашай краіны адзначана ўдзелам у XI Міжнароднай біялагічнай алімпіядзе. Сёлета яна праходзіла ў турэцкім горадзе Анталія.

На гэты раз у ліку 150 прэтэндэнтаў з 38 краін на вышэйшыя ўзнагароды былі і чатыры школьнікі з Беларусі. Гэта Сяргей Прыгожы, Максім Нямчынаў, Вера Кудрашова, Аляксандр Яноўскі. Алімпіяда праходзіла ў два туры — практычны і тэарэтычны. Школьнікам трэба было паказаць свае веды ў клетачнай біялогіі, біяхіміі, заалогіі, батаніцы, экалогіі, анатоміі і фізіялогіі.

Дарэчы, XI МБА ўвайшла ў гісторыю як "самая гарачая алімпіяда", паколькі тэмпература на дварэ дасягала адзнакі плюс 50 градусаў па Цэльсію. Ганаровае ўручэнне медалёў пераможцам стала доўгачаканай узнагародай за ўпартую інтэлектуальную барацьбу. Нашы хлопцы і дзяўчаты павезлі на радзіму чатыры медалі ўсіх відаў.

**Юлія ФЯДОТАВА.**

ЗАХАВАЙ ТРАДЫЦЫЮ

# СВЯТА «БАГАЧ»

Адраджэнне беларускай культуры пачалося ў 90-х гадах гэтага стагоддзя. Вялікую ролю ў гэтым працэсе мае зварот да народных каштоўнасцей. Да іх звяртаемся таксама і мы ў нашай беларускай нядзельнай школе, якая існуе ўжо некалькі гадоў. Штогод святкуем беларускія каляндарныя святы. Летась мы ўпершыню адзначалі свята "Багач". "Багач" — свята заканчэння ўборкі збожжавых і пачатак азімай сяўбы. Багачом называецца лубка-кошык, напоўнены жытам, з устаўленай свечкай. Згодна з павер'ем, Багач забяспечвае ніву жытам. У хаце Багач ставіўся на самым пачэсным месцы — на покуці (чырвоны куток). Лічылася, што Багач прыносіць у хату дастатак і шчасце. На гэта свята Багач па чарзе пераносілі ад хаты да хаты, тым самым жадаючы кожнаму гаспадару багацця.

Мы зрабілі вельмі прыгожы Багач, які паставілі каля іконы Ефрасінні Полацкай, нашай заступніцы. Гэта ікона стаіць у нас на самым пачэсным месцы. Яе падараваў нам наш сябра, дарадчык, які шмат увагі ўдзяляў школе. Мы вельмі ўдзячныя яму за гэта. Цяпер дзіўна, што некалькі гадоў назад мы нават не ведалі пра такую святую.

Багач мы нікуды не пераносілі, а перадавалі адзін аднаму з самымі найлепшымі пажаданнямі, якія толькі ведалі. Вельмі хочацца спадзявацца, што Багач прынясе нам шчасце...

Для гэтага свята мы зрабілі выставу з таго, што выраслі на нашых агародах. Самым цікавым экспанатам быў памідор, які важыў 350 грамаў. Не менш прыгожа выглядалі качаны капусты, бульба, буракі, агуркі, сланечнік, салодкі перац, кабачкі, букеты з вяргіняў, снапы льну, жыта, аўсу і многае іншае. Усе яны мелі трошкі незвычайны выгляд, чым прыцягвалі нашу ўвагу. А сноп ільну быў як сімвал Беларусі. Настаўніца расказала, як выраблялі лён раней. І месяц кастрычнік, у якім, аказалася, лён кастрue, мае дачыненне да льну. "Кастра" — тое, што застаецца ад ільну пасля апрацоўкі.

Мы любім беларускія святы. Яны пашыраюць наш кругагляд, даюць магчымасць засвоіць асновы этнакультуры беларусаў, а таксама асэнсаваць месца спадчыны беларускага народа сярод культур іншых народаў.

Свята "Багач" мае таксама свой сэнс, які глыбока звязаны з культурай нашага народа, з нацыянальнымі традыцыямі, якія маюць працяг і сёння... Самае цікавае, што пасля артыкула ў мясцовай газеце да нас у школу завітаў адзін дарослы чалавек, які папрасіў нас расказаць пра гэта свята. Гэта быў Іван Коктыш, беларус, пенсіянер, вельмі цікавы чалавек. Ён успомніў, што калісьці яго маці казала, што ён нарадзіўся на Багач, але не ведае дакладную дату свайго нараджэння (раней не заўсёды рабілі такія запісы) і хоча ўспомніць, удакладніць нейкія моманты свайго жыцця. Вось такая цікавая гісторыя з нашым Багачом. Мы паказалі госцю кнігі, дзе самі прачыталі пра гэта свята, каляндар, па якім святкуем беларускія святы. Слухаў Іван Коктыш уважліва, падзякаваў. Нам было вельмі прыемна: мы ведаем тое, што не заўсёды ведаюць дарослыя.

**Наташа ШЫНКЕВІЧ
і дзеці беларускай
нядзельнай школы.**
г. Латвія, Даўгаўпілс.



*Удзельнікі свята "Багач" у Даўгаўпілсе, 1999 год.*



*Вось так прыгожа падрыхтаваліся да свята "Багач" у Даўгаўпілсе.*

ГАЛЕРЭЯ МАЙСТРОЎ



Зноў загучыць разбітая гітара, паламаная скрыпка пасля таго, як інструмент пабудзе ва ўмелых руках маладога сталяра Валянціна ТКАЧЭНКІ. Нядаўні выпускнік Мінскага тэхнічнага вучылішча № 25 карыстаецца добрай славай аднаго з найбольш старанных і дасведчаных майстроў вытворча-рамонтнага прадпрыемства "Музрэм" у сталіцы.

**Фота
Аляксея МАЦЮШКОВА,**
БелТА.

БЕЛАРУСЫ Ў ЛІТВЕ

# ЗДАБЫТКІ ДЗЯРЖАЎНАГА ШЛЯХУ

## БЕЛАРУСКІ ПАТРЫЯТЫЧНЫ РУХ У ЛІТВЕ Ў ХХ СТАГОДДЗІ (ДА 90-х ГАДОЎ)

**Леў МІРАЧЫЦКІ.**

З нагоды эпахальнай для еўрапейскай і хрысціянскай цывілізацыі даты — змены тысячагоддзяў наспявае неабходнасць хаця б фрагментарна спыніцца на здабытках беларускага дзяржаўнага шляху, які не меншы, чым у многіх іншых народаў еўрапейскага кантынента.

Беларускую дзяржаўнасць краёвыя і замежныя славянскія гісторыкі адлічваюць з 980 года, калі ўпершыню ў летапісах згадваюцца Полацкае і Тураўскае княствы. Беларусь разам з іншымі народамі Еўропы прайшла праз сярэднявечча — раннія дзяржаўныя ўтварэнні, магутнае Полацкае гаспадарства, буйная еўрапейская дзяржава Вялікае княства Літоўскае — да новага часу, канец якога, аднак, азмрочыўся стратай незалежнасці ў XVIII стагоддзі.

Валадарства на далучаных землях Беларусі, Літвы і Эстоніі давала царскай Расіі магчымасць праводзіць сваю ўнутраную і знешнюю палітыку па імперскіх законах. Таму пачатак ХХ стагоддзя азмрочыўся руска-японскай вайной за панаванне на Далёкім Усходзе, за падзел паўфеадальнага і паўкаланіяльнага Кітая. Паражэнне ў ёй, нібы бурлівы смерч, пранеслася па неабсяжнай Расійскай імперыі, прымусіўшы народы да змагання за дэмакратычнае стваральнае жыццё без войнаў і каланіяльнага здзеку.

У студзені 1906 года ў Мінску склікаецца II з'езд Беларускай Сацыялістычнай Грамады, які займаецца распрацоўкай праграмы дзеяння, прыстасаванай да мясцовых умоў. Але галоўным цэнтрам усяго беларускага руху па-ранейшаму заставалася Вільня, былая сталіца Вялікага княства Літоўскага, калыска актыўных патрыятычных сіл краю.

Тут, у Вільні, патаемна ўлетку 1906 года адбыўся з'езд "Беларускага Саюза Народных Вучыцялёў", які ў сваёй праграме пастанавіў дамагацца школы на роднай мове. Але арганізацыі не пашанцавала. Гэтую акцыю выкрыла паліцыя. Кастусю Міцкевічу прыйшлося адбываць пакаранне ў мінскім астрозе. У той час, у канцы 1906 года, у Вільні ўжо пачала выходзіць першая беларуская легальная газета "Наша доля". Кастусь Міцкевіч адгукнуўся на заклік рэдакцыі і пачаў супрацоўнічаць з выданнем. У трэцім нумары былі надрукаваны яго верш "Беларусам":

*Устаньце, хлопцы,
устаньце, браткі,
Устань ты, наша старана!
Ужо глядзіць к нам
на палаткі
Жыцця новага вясна!*

*Ці мы, хлопцы, рук не маем?
Ці нам сілы Бог не даў?
Ці над родным нашым краем
Луч свабоды не бліснаў?*

Выйдзем разам да работы,
Дружна станем, як сцяна,
І прачнецца ад грымоты
З намі наша старана!

Чалавек, які адважыўся кінуць такі заклік, рабіў гэта не дзеля мімалётнага настрою. Моцны дух барацьбіта адчуваўся ў творчасці паэта Якуба Коласа, як сябе называў настаўнік Кастусь Міцкевіч. Захоплены рэвалюцыйным рухам 1905-га, ён, аднак, па ацэнцы крытыка Антона Навіны, на першае месца ставіў духоўнае вызваленне беларусаў праз родную мову і школу, быў перакананы: царызм не зацікаўлены вярнуць народу яго нацыянальную свядомасць.

Праявы жыцця і перажыванні сярмяжнай масы Віленшчыны моцна турбавалі вясковага настаўніка. Свядомая вясковая інтэлігенцыя, якая моцна трымалася сваіх спрадвечных каранёў, не забывалася шанаваць родную мову, звычаі і традыцыі, асуджала імперскую вялікадзяржаўную палітыку царызму.

### АБУДЖЭННЕ БЕЛАРУСАЎ

Самаадданая і ахвярная праца беларускіх патрыётаў у часе бурлівых падзей першай рускай рэвалюцыі 1905—1907 гадоў заслугоўвае таго, каб на некаторых постацях спыніцца асобна. Даволі шырокую папулярнасць набылі імёны братоў Яна і Антона Луцкевічаў. За Янам (Іванам) замацавалася рэпутацыя "вялікага будаўніка Беларусі", шчырага патрыёта, будзіцеля. Нарадзіўся ён 28 мая ў Шаўляі былой Ковенскай губерні, дзе бацька ў той час працаваў на чыгунцы.

У доме часта згадвалі пра напалеонаўскі паход і паўстанні 1831 і 1863 гадоў, жылі ідэаламі дэмакратызму з часоў французскай рэвалюцыі, у сям'і заўсёды панаваў дэмакратычны дух. Гэтым настроем былі прасякнуты і дзеці. Значны ўплыў на іх зрабіў стары літоўскі дзеяч Амбразайціс. На сходках у яго цеснай кватэры кожнае слова западала ў душы хлопцаў і будзіла думкі аб справядлівасці і волі. Так нарадзілася пераканане, што і народ у шэрых світках, з якім даводзілася сустракацца ўлетку ў вёсцы ў Віленскім павеце ў ваколіцах Краснага, мае права на лепшае жыццё, пашану сваёй мовы, як літоўцы, латышы. А знаёмства з гісторыяй Бацькаўшчыны гаварыла, што гэты народ не заўсёды жыў так, як цяпер, меў слаўнае мінулае і зрабіў уклад у культурную скарбніцу чалавецтва.

Вядома, што ў 1895 годзе сям'я Луцкевічаў перабралася ў родную Беларусь — у Мінск. Івана Луцкевіча спачатку пакінулі ў Лібаве. Але пакольк бацька праз паўгода пасля пераезду памёр, маці забрала Івана да сябе, дзе той паступіў у 5 клас мінскай гімназіі. Тут ён сустрэўся з вядомым археолагам Генрыкам Татурам, пад уплывам якога захапіўся гісторыяй і археалагічнымі заняткамі. Здольны ад прыроды, з жывым характарам, Іван Луцкевіч лёгка зыходзіўся з калегамі, шмат сустракаўся з людзьмі, гуртуючы вакол сябе дэмакратычна настроеных хлопцаў і дзяўчат, крышталізуючы іх беларускую свядомасць. Гэта паспрыяла арганізацыі беларускага гуртка. У 1902 годзе, скончыўшы гімназію, Іван паступіў у Пецярбургскі універсітэт і адначасова ў Археалагічны інстытут у Маскве.

**(Працяг будзе).**

МАСТАК І ЧАС

● **Людміла НАЛІВАЙКА,**
*кандыдат мастацтвазнаўства.*

# ЯСНАЕ СВЯТЛО МАЙСТРА

## ДА 100-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Аляксандра АХОЛА-ВАЛО

У дзвюх невялікіх залах Віцебскага мастацкага музея дзейнічала выстава, прысвечаная 100-годдзю з дня нараджэння вядомага фінска-шведскага мастака Александэры Ахола-Вало, які з 1920 па 1930-я гады жыў і працаваў на Беларусі. Віцебскі перыяд яго творчай дзейнасці прыпадае на гады "вялікага паходу" Чырвонай Арміі на Захад пад сцягамі сусветнай рэвалюцыі. Лозунг "Даеш Варшаву!" — вось мэта гэтага знакамітага руху, які скончыўся поўным крахам. Але малады, таленавіты мастак змог занатаваць у сваіх альбомах цікавыя моманты, звязаныя са шляхамі-дарогамі ад Віцебска праз Ліду, Беласток на Варшаву.

Біяграфія Аляксандра Пятровіча, Алеся (менавіта так яго называлі ў Віцебску і Мінску), складалася з шэрагу розных цікавых старонак, якія характарызуюць яго як актыўнага дзеяча ў розных сферах культуры, філасофіі.

У Віцебску Ахола-Вало доўга лячыўся ў шпіталі, а таксама вучыўся ў майстэрнях Ю. Пэна, С. Юдовіна, слухаў лекцыі знакамітай паплечніцы К. Малевіча па сумеснай дзейнасці ў таварыстве "Сцвярджальнікаў новага рэвалюцыйнага мастацтва" В. Ермалаевай. Менавіта ў Віцебску яго думкі былі асветлены ідэяй стварэння, так бы мовіць, своеасаблівага індэкса чалавечага жыцця. У аснове гэтага індэкса — графічныя выявы розных форм, што сімвалізуюць творчы і жыццёвы патэнцыял асобы. У Віцебску было складзена некалькі сотняў гэтых сімвалаў. Новая навука патрабавала эксперыментаў, і ўжо ў 1925 годзе ў Першай гарадской школе мастак-педагог ставіў і вырашаў патрэбныя яму мэты і задачы, працуючы над стварэннем спецыяльнай групы "Таварыства", якая мела ўласны орган друку і рэдакцыйную калегію. Насценная газета выяўляла недахопы сродкамі сатыры і гумару. Новымі былі і заняткі па фізічным выхаванні, галоўная мэта якога — удасканаленне цела.

Беларускі перыяд таксама ўключыў жыццё ў Мінску (1926—1930), дзе творчая думка маладога мастака і вучонага разгарнулася шырокім фронтам. А. Ахола-Вало ўдзельнічаў ва ўсіх мінскіх мастацкіх імпрэзах 20-х гадоў. Апрач таго, яго графічныя творы ўключаліся ў планы замежных экспазіцый у Францыі, Германіі, Расіі. Галоўным відам мастацтва рабілася графіка. На старонках газет і часопісаў А. Ахола-Вало выконваў цікавыя заказы. У гэтым шэрагу знаходзяцца "Малады араты", "Млот", "Беларуская вёска", "Беларускі піянер", "Трыбуна мастацтва", "Работніца і сялянка" і іншыя, усяго больш за дваццаць выданняў.

Можна ўбачыць традыцыйныя ілюстрацыі да аповесцей, сяброўскія шаржы, афармленне першых старонак, застаўкі і г. д. Рознабаковасць мастака-афарміцеля выданняў доказвалася і пры ілюстраванні кніг Я. Коласа "Новая зямля", М. Грамыкі "Плынь", А. Вольнага "Табе", А. Александровіча "Угрунь", П. Труса "Ветры буйныя". Афармляў вокладкі такіх цяпер рэдкіх выданняў, як "Сялянская вечарына", часопіс "Прасторы".

Менавіта А. Ахола-Вало належала ініцыятыва стварэння суполкі, якая па сваіх задачах набліжалася да маніфеста віцебскіх "Стваральнікаў новага мастацтва" ("УНОВІС"). Доказам такой творчай пераемнасці стала мінская суполка мастакоў "Прамень" (1928), членамі якой з'яўляліся П. Гуткоўскі, В. і Я. Ціхановічы, А. Пук, Я. Розанаў і іншыя. Новае жыццё, задачы культурнай рэвалюцыі, звязаныя з пытаннямі выхавання новага чалавека, — усё супадала з жыццёвымі і мастацкімі поглядамі мастака-рацыяналізатара, канструктывіста, філосафа. (Дарэчы, па-фінску Вало — святло, прамень).



Ён уключаецца ў планы стварэння новага рэвалюцыйнага асяроддзя, распрацоўвае канструктывісцкія праекты засваення новай прасторы. У 1925 годзе на першай старонцы "Савецкай Беларусі" на святочны дзень гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі быў надрукаваны плакат, у кампазіцыйнае поле якога ўвайшлі зямны шар і шасцярня, у выніку кручэння якіх узнікалі промні. А ўсё разам — касмічная прастора, якая ўжо нібыта засвоена чалавекам. І гэта сфантазіравана ў час, калі здзейсніць касмічныя палёты можна было толькі ў праектах і марах. У 1927—1928 гадах задумана серыя твораў на тэму новага асяроддзя чалавека XX стагоддзя.

Да мінскага часу адносіцца рацыяналістычная дзейнасць, у аснове якой распрацоўкі моцнай асновы лінарыта, дзеля тыражавання сваіх гравюр на старонках выданняў. Зноў перамога: яго лінарыты вытрымлівалі тыраж 10—12 тысяч!

Вынікам дзейнасці А. Ахола-Вало сталі яго творы жывапісу, графікі, скульптуры. Ён аўтар кніг мемуарнага характару, дзе з дзіцячых год фіксаваліся прыклады ўсялякіх station станоўчых альбо заганных дзеянняў у сям'і і грамадстве. Больш за 80 год А. Ахола-Вало вёў свае асабістыя дзённікі-адзнакі, дзе падводзіліся вынікі асабістай творчай дзейнасці. З месяца ў месяц, з года ў год мудры руплівец на ўласным вопыце даказваў здольнасць працаваць да скону, весці актыўны лад жыцця, прыцягваць увагу да сябе маладых. Вынікам такога самаадданага жыцця-эксперымента стаў той факт, што Майстар пражыў амаль 98 гадоў.

У арсенале яго творчасці больш за дзесяткі тысяч прац. У горадзе Хяменліне (Фінляндыя) яшчэ пры жыцці Ахола-Вало створаны музей яго імя, дзе ёсць "беларускі куток", упрыгожаны лінарытамі, малюнкамі, аркушамі з праектамі новых канструкцый XX стагоддзя: асноўная частка светлых мараў пра светлае жыццё прыпадала на беларускі перыяд.

Прапанаваная ў Віцебску выстава, якая збіралася з матэрыялаў фонду мясцовага мастацкага музея, адказвала амаль на ўсе пытанні, узнятыя ў гэтым артыкуле. Вялікі дзякуй супрацоўнікам музея, у прыватнасці Іне Холадавай, якая ўзяла на сябе распрацоўку навуковай канцэпцыі экспазіцыі слыннага еўрапейскага мастака Аляксандра Ахола-Вало, чые духоўныя карані звязаны з Беларуссю.

*НА ЗДЫМКАХ: А. АХОЛА-ВАЛО ў Мастацкім музеі. Віцебск, 1995 год; А. Ахола-Вало. Эскіз праекта МОПРА для сельскагаспадарчай выставы. Мінск, 1930 год; плакат у газеце "Савецкая Беларусь", 1925 год.*





ЧАРНОБЫЛЬ




**У ліку першых перасяленцаў прыехаў з пацярпелай ад Чарнобыля Брагіншчыны ў Добрушскі раён настаўнік геаграфіі Адам Варанец. Ён не прапускае ні аднаго велапрабегу, які традыцыйна праводзіцца напярэдадні даты трагедыі па тэрыторыі трох пацярпелых ад аварыі абласцей — Гомельскай (Беларусь), Бранскай (Расія) і Чарнігаўскай (Украіна).**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

СЦЯЖЫНАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# ІЎЕ – ГАРАДОК АДМЕТНЫ

Іўе — гарадок, непадобны на іншыя вялікія і маленькія гарадкі. Ён выглядае вельмі прыгожа, асабліва ўлетку. Навакол такі спакой, цішыня! Але паспрабуем перанесціся на некалькі стагоддзяў назад і ўявіць старажытнае паселішча, імя яго ідзе ад назвы драўніннай пароды івы (вярбы). Яно размясцілася паміж лясістай і забалочанай Налібоцкай пушчай і шматлікімі балотамі на рацэ Гаўя, і праз яго праходзяць шляхі на ўсход, поўнач і поўдзень.

Да першай паловы XIII стагоддзя Іўе знаходзілася ў межах Кіеўскай Русі, а ў 1253 годзе князь Міндоўг заснаваў новую раннефеадальную дзяржаву Вялікае княства Літоўскае, і ў хуткім часе Іўе апынулася ў складзе гэтай дзяржавы і ўвайшло ў Ашмянскі павет Віленскага ваяводства. Паселішчам па чарзе валодалі магнаты з роду Кішкаў, потым Радзівілаў. Да нашага часу дайшлі інвентары Іўеўскага ўладання, па якіх можна скласці ўяўленне аб жыцці і побыце мясцовага насельніцтва ў час феадальна-прыгонніцкага ладу. Прыглядаюся старанна да вуліц: яны збераглі даўніну тых дзён, калі па іх рухаліся падводы, на якіх сяляне перавозілі натуральны аброк у панскі фальварак. Кожнаму двару строга распісвалася, колькі бочак збожжа, колькі рознай жыўнасці, мёду, яек і іншых прадуктаў трэба аддаць пану, колькі дзён адпрацаваць на яго зямлі...

Пранесліся гады, складваючыся ў стагоддзі, але ўсё, што адбывалася ў вялікім свеце: змена аднаго грамадскага ладу іншым, паўстанні, рэвалюцыі, войны — не абышлі і маленькую Іўеўшчыну.

І сёння Іўе — пасёлак драўляны. У кожным двары хлеўчукі, грады. У некаторых дварах яны вузкія, роўныя, доўгія, акуратна дагледжаныя. Дык гэта ж татарскія агароды! А татары — агароднікі адмысловыя. На зямлі ўмеюць тварыць сапраўдныя цуды! Пад плёнкай вырошчваюць кветкі, расаду, раннюю гародніну. Таму і жывуць заможна. Многія стагоддзі назад татарскім пасяленцам дазволілі жаніцца з мясцовымі жанчынамі. З тае пары перамяшалася кроў мусульманская і праваслаўная, і татары назаўсёды атабарыліся на беларускай зямлі. Многія, праўда, за гэты час страцілі сваю мову, але агульныя традыцыі ўсё ж захоўваюць свята. Дапамагае ім у гэтым дзеючая мусульманская мячэць. Дарэчы, у Іўі мірна суіснуюць розныя рэлігійныя канфесіі: каталіцкая, праваслаўная, мусульманская. Да Вялікай Айчыннай вайны, калі ў гарадку жыло шмат яўрэяў, тут дзейнічалі тры сінагогі. Фашысты ў час вайны знішчылі ў гета 13 000 яўрэяў, і мясцовыя жыхары цяпер ушаноўваюць памяць гэтых ахвяр фашызму з такой жа павагай, як і ўсіх іншых.

Іўе — раённы цэнтр, дзе сёння жыве каля 10 тысяч чалавек. Вялікіх прамысловых прадпрыемстваў тут няма, але ў гарадку працуе камбінат кааператыўнай прамысловасці, куды ўваходзяць хлебазавод, каўбасны і макаронны цэхі. Ёсць сельскае прафесійна-тэхнічнае вучылішча, дзе, акрамя традыцыйных, навучаюць новым прафесіям, сугучным часу. Некалькі дзесяткаў дзяўчат авалодваюць прафесіяй "гаспадыня сядзібы", якая дае ім разнастайныя веды па вядзенню прысядзібнай гаспадаркі.

Ёсць у Іўі свае дарогі да храмаў. Адна з іх, паабапал якой старыя дрэвы з магутнымі вершалінамі, вядзе да светлага будынка касцёла святых Пятра і Паўла, пабудаванага ў 1600 годзе, асноўнай архітэктурнай дамінанты Іўя. Храм прайшоў шмат выпрабаванняў, бо лёс яму дастаўся не з лёгкіх, але храм і сёння верна служыць людзям і Богу.

Так і жыве Іўе — у працы, малітвах і клопатах.

**Віктар ЖЫБРЫК.**

УРАЖАННІ

# БЕЛАРУСКАЯ «КРЫНІЧКА» НА ЕЎРАПЕЙСКІМ АБШАРЫ

● Яўген ЛЕЦКА.

...Яшчэ грымела смяротная музыка вайны, але ў чалавечых душах спакваля набірала моцы іншая мелодыя жыцця, у аснове якой былі надзеі на мір і шчасце, на радасць, дзіцячы смех і стваральную працу. Менавіта ў той час, напрыканцы разбуральнай і трагічнай у гісторыі чалавецтва вайны, нарадзілася ідэя музычнага сусветнага фестывалю, заклікана аб'яднаць на зямлі старажытнага Уэльса таленавітых людзей з усіх краін незалежна ад таго, хто на якім баку змагаўся. Бо чалавеку працы і высокіх творчых памкненняў увогуле ніколі і ніякая вайна не патрэбна. А таму сімвалам фестывалю сталіся дзве ў моцным поціску рукі. Упершыню пад гэтым лаканічным, але шматвымоўным сімвалам сабраліся пасланцы планеты Зямля ў 1946 годзе.

Сёлета ж з 3 па 9 ліпеня надзвычай маляўнічы Ландголен (з усіх бакоў акружаны ці то парослым лесам, ці разгароджанымі высакагорнымі пашамі гарамі, на адной з якіх узвышаюцца так падобныя на наш Навагрудскі замак руіны некалі непрыступнай старажытнай камяніцы) сабраў музычныя і спеўныя гурты ды асобных выканаўцаў ужо 54-ты раз. Прадстаўлены былі ўсе кантыненты з пяцідзесяццю дзвюма краінамі, большасць з якіх мела па некалькі калектываў. Сярод іх упершыню радавалі вока нашы спрадвечныя колеры і на артыстычных строях, і на сцяжках, што ў суладдзі з іншымі калыхаліся на расцяжках на святочных ландголенскіх вулачках. Гонар прадстаўляць Беларусь здабыў хор "Крынічка" сярэдняй школы № 77 горада Мінска. Паездка адбылася пры арганізацыйным удзеле выдавецтва "Бацькаўшчына". Удзельнікі выказваюць шчырае дзякуй кіраўніцтву "МАЗа" за камфортны аўтобус "Неаплан", а таксама біскупу Віцебскай дыяцэзіі Уладзіславу Бліну, які і паспрыяў таму, што браты па веры залагодзілі начлег і харчаванне ў Польшчы. Гасцявалі вандроўцы ў сем'ях парафіян касцёла святой Ядвігі ў Зялёнай Гуры. Тут жа, на раніцу, далі свой першы канцэрт, які прайшоў удала і нібы стаў зарукай будучых поспехаў.

Хор "Крынічка" складаецца з дзяўчынак малодшага і старэйшага ўзросту і выступае ў двух намінацыях — акадэмічныя і народныя спевы. Найбольш уражліва на фестывалі прагучалі беларускія спевы — традыцыйная "Касіў Ясь канюшыну", што выконвалася пад мелодыю цымбалаў, скрыпкі і іншых народных інструментаў і спалучалася з вясёлай падтанцоўкай ды гульнёвымі выкрутасамі. Зала ўскалыхнулася ад дружных воплескаў, а аўтарытэтнае журы прысудзіла "Крынічцы" ў гэтай намінацыі 2-е месца.

Пасля гэтага з'явілася фота ў газетах, запіс на тэлебачанні і запрашэнні выступіць з канцэртамі. Такім чынам "Крынічка" апынулася недалёка ад Ліверпуля. Жывуць ў проста выдатна абсталяваным студэнцкім памяшканні, смачна харчуюцца ў сталоўцы каледжа. Апякуецца імі даўні сябра Беларусі, добра вядомы ў пацярпелых ад Чарнобыльскай аварыі раёнах Майк Х'юбіт (пасланец добрай волі). Гэта чалавек надзвычай цікавага жыццёвага лёсу, шчырай і спагадлівай чалавечай душы. Правёў ён цікавую экскурсію па Ліверпулю з наведваннем так блізкага моладзі музея славутых "Бітлзаў". З поспехам прайшоў арганізаваны ім канцэрт у адной з самых вялікіх у Ліверпулі англіканскіх цэркваў. Асабліва запала ў душу вернікаў песня "Дзецям Чарнобыля" (мелодыя і словы Ганны Казловай), у якой саліравала як спявачка і скрыпачка дачка кампазітаркі Антаніна Казлова. Варта таксама адзначыць удалае выканальніцкае майстэрства сямейнага дуэта (мама з сынам) Ірыны і Аляксея Скрыпнікаў. Добрага слова заслугоўвае і сёлетняя выпускніца Беларускага лінгвістычнага універсітэта Ксеня Голуб, якая выступае ў дзвюх іпастасях: перакладчыцы і вядучай канцэртных праграм.

Наперадзе, апрача гарадоў гэтага рэгіёна, паездкі і выступленні ў Лондане, сустрэча з беларускай дыяспарай Англіі і Бельгіі. Карацей, наша "Крынічка" з поспехам струменіць па еўрапейскіх краінах, несучы людзям розных нацыянальнасцей радасць, усмешкі, а разам і веданне Беларусі, якая ўсё больш актыўна прапісваецца на палітычнай і культурнай карце Еўропы.

*Вялікабрытанія, Уэльс.*

ЖЫЦЦЁ ДЫЯСПАРЫ

## БЕЛАРУСКІ ФЭСТЫВАЛЬ У САЎТ РЫВЭРЫ

17-га чэрвеня ў Беларускім Грамадзкім цэнтры адбыўся традыцыйны беларускі фэстываль. Уразіла вялікая колькасьць гасьцей і ветлівасьць гаспадароў. Выдатна прыгатаванымі былі беларускія стравы й печыва. Безумоўна, лепшаю часткаю імпрэзы быў канцэрт, у якім узялі ўдзел Валянціна Пархоменка, Алесь і Вольга Казакі і таксама госьці зь Беларусі — сп. Котаў з некалькімі сваімі выхаванцамі. Прыхільнікі сьпеваў спадарства Казакоў-Пархоменка маглі набыць іх апошнюю аўдыёкасэту.

Лятарэі, якіх было некалькі, сабралі шмат удзельнікаў. Відаць, іх прывабілі прыгожыя і каштоўныя прызы. На працягу ўсяго фэстывалю ў залі грамадзкага цэнтру прадаваліся беларускія сувэніры, кнігі й аўдыёкасэты.

Прыемна, што многія нью ёркцы скарысталі гэтую нагоду, каб яшчэ раз пабыць сярод сваіх людзей, сустрэцца са сваімі знаёмымі, якія папрыязджалі з ваколіцаў і нават з нябліскага Масачусэтсу.

## У НЬЮ ЁРКУ АДЗНАЧЫЛІ КУПАЛЬЛЕ

У ноч з 24-га на 25-е чэрвеня беларусы Нью Ёрку пасьля доўгага перапынку зноў адзначылі Купальле, старажытнае, маляўнічае сьвята ў гонар летняга сонцавароту, насычанае прыгожымі звычаямі. Купальле вядома ўсім народам Эўропы. Пачынальнік славянскае фальклярыстыкі З. Даленга-Хадакоўскі, які жыў на пераломе XVIII і XIX стагодзьдзяў, сьведчыў, што нашыя землі некалі літаральна палалі купальскімі вогнішчамі.

Цяжка сказаць, ці адбылося-б гэта, калі сярод нас ня было такое адданае прыхільніцы народных традыцыяў, як сп-ня Валя Якімовіч. Толькі дзякуючы яе намаганьням змаглі мы перажыць тыя пачуцьці, якія напаўнялі душы многіх пакаленьняў нашых продкаў каля купальскіх вогнішчаў.

Шкада, што далёка ня ўсе жадаючыя змаглі прыехаць, каб правесьці тую ноч у Белэр-Менск. Ад Нью Ёрку туды трэба дабірацца добрых дзьве гадзіны на машыне. Каму не дазволіў гэта зрабіць працоўны расклад, каму адсутнасць транспарту. Але можна з упэўненасцю сказаць, што на наступны год купальскія вогнішчы зьбяруць значна больш людзей, бо тыя, хто ў беларускіх строях хадзіў у карагодзе, сёлета прыедуць туды абавязкова і запросяць таксама на сьвята сваіх сваякоў і знаёмых.

Няхай Купальле будзе для нас прыгожым напамінам, што сонейка, сьвятло заўсёды перасільвае цемру ночы.

**Марат КЛАКОЦКІ.**
**"Весткі й Паведамленні" нью ёрскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня.**

*ЗША.*

ЛЕГЕНДЫ І СУЧАСНАСЦЬ

**Скульптурны пленэр "Легенда з пяску", прысвечаны 1000-годдзю з дня смерці Рагнеды, прайшоў пад эгідай гісторыка-культурнага музея-запаведніка ў Заслаўі. На працягу трох дзён навучэнцы Беларускага каледжа мастацтваў пад кіраўніцтвам свайго настаўніка і каардынатара праекта "Легенда з пяску" Генадзя Лойкі стварылі вобраз легендарнай Рагнеды.**

**НА ЗДЫМКУ: у час стварэння Рагнеды.**

**Фота Аляксея МАЦЮШКОВА,** БелТА.



# ХАЙ ЗБУДУЦЦА МАРЫ

Першага чэрвеня ў бельскім белліцэі ўсе былі ўрачыстыя і ў кветках. І моладзь, і бацькі, і настаўнікі.

— Я столькі гадоў ужо з гэтай школай, — кажа Галіна Барташук, якой трое дзяцей і зяць закончылі гэту школу. — Як родную сям'ю пакідаеш. Аж шкада, што больш у нас дзяцей няма...

— Вынікі даволі добрыя, я зрабіла падлікі. IV "а" клас мае ў сярэднім ацэнку 4,171, IV "б" — 4,369, IV "ц" — 3,979. Пісьмовы па польскай мове напісалі на 3,67, беларускую на 3,91 (без алімпійцаў, з імі — 4,12), гісторыю — 3,96, біялогію — 3,85, матэматыку — на 4,66, рускую мову — на 4,42, англійскую — на 5. Вусныя экзамены таксама нядрэнна паздавалі — польская мова — 4,25, беларуская — 4,53, руская — 4,4, гісторыя — 4,03, біялогія — 4,32, хімія — 5, матэматыка — 4,73, геаграфія — 3,7, англійская мова — 4,7. У сярэднім — здалі вусны экзамен на звыш чым чацвёрку.

— Ад сённяшняга дня нашы вучні будуць думаць пра сябе самі, — кажа спадарыня дырэктар Зінаіда Навіцкая. — Чакаюць іх экзамены ў вышэйшыя навучальныя ўстановы. Як кожны год, раз'едуцца па ўсёй Польшчы — Шчэцін, Гданьск, Люблін, Беласток, Варшава... У Беларусь выбіраюцца вучыцца 6 выпускнікоў (на англійскую мову, медыцыну, эканамічныя замежныя адносіны). Некаторыя складалі дакументы на некалькі напрамкаў. Тыя, хто закончыў ліцэй, часта пасля наведваюць школу, прыходзяць паглядзець, што змянілася, расказаць, як ідуць іхнія справы. Чакаем іх у школе з нецярплівасцю.

Урачыстаць пачалася ўвядзеннем штандару школы ды гімнам. Дарагія абсальвенты, да якіх з прамовай звярнулася апошні раз спадарыня дырэктар, выслухалі яе пажаданні ды сардэчныя настаўленні. Асабліва дзякавала яна тым, хто сваёй шчырай працай прынёс сабе і школе гонар – алімпійцам, удзельнікам конкурсаў, самаўрадаўцам, спартсменам, сярод якіх найбольш гонару і радасці прынёс Андрэй Красоўскі — майстар спорту на інваліднай калясцы. "Дзякуючы яму, мы сталі лепшымі!" — гэтыя словы спадарыні дырэктара суправаджаліся гучнымі апладысментамі. Андрэй стаў прыкладам для ўсіх, як трэба змагацца, даў магчымасць выказваць чалавечнасць і сяброўства сваім калегам. Сам узяў ён голас і ў цудоўнай развітальнай прамове падзякаваў ад сябе і калег настаўнікам і бацькам. Хвіліны падсумавання, успамінаў і падзяк завяршыў яго праасвяшчэнства епіскап бельскі ўладыка Грыгорый, які, прывітаўшыся словамі радасці ад уваскрашэння Хрыстовага, выказаў сваё бласлаўленне на далейшую дарогу выпускнікам і настаўнікам. "Гэта адзін экзамен, маленькі ў параўнанні з тымі, якія чакаюць вас у жыцці", — сказаў уладыка. Пажадаў выпускнікам, каб на іхным шляху спадарожнічалі ім любоў, шчасце, інтэлектуальнае і духоўнае развіццё ды ўдзячнасць за дабро, якое атрымоўваюць. Хай збудуцца іхныя мары!

**Міра ЛУКША.**
**"Ніва".**

*Польшча.*

УДАКЛАДНЕННІ

● Хэлена ГЛАГОЎСКАЯ.

"Голас Радзімы" вымушае адгукнуцца на некаторыя недарэчнасьці, якія з'яўляюцца на старонках беларускіх выданняў. Чарговым разам памылкова (С. Рудовіч у "Энцыклапедыі Гісторыі Беларусі", т. II, Мінск, 1994, с. 447—448, Яўген Мірановіч у беластоцкай "Ніве", №46 ад 15 лютага 1998 г. — "Да стагоддзя з дня нараджэння" (!) і таксама ў "Навейшай гісторыі Беларусі", Беласток, 1999.) указваецца дата і месца нараджэньня ксяндза Вінцэнта Гадлеўскага. Зараз памылку паўтарыў "Голас Радзімы" ў артыкуле "Беларускі ксёндз Вінцэнт Гадлеўскі" (ад 23.02.2000 г.). Як быццам на злосьць самому герою, які напісаў сваю аўтабіяграфію для "Bielaruskaj Krynicy" (1928, № 13—16). Разумею, што мог яе не ведаць Вацлаў Пануцэвіч, пішучы пра ксяндза ў эміграцкіх умовах ("Беларуская царква", 1965, № 28, перадрукавана ў "Спадчыне", 1993, № 5—6). Але астатнія?

У згаданым аўтабіяграфічным нарысе В. Гадлеўскі пісаў, што нарадзіўся ў 1888 годзе (а не ў 1898) у Шурычах каля Поразава (а не ў Поразаве). Дробязі, але для біяграфіі істотныя. 10 гадоў адняць — не так і мала! Тым больш, што ўсе аўтары згодна паўтараюць далей сапраўдныя даты: у 1912 годзе заканчвае Віленскую каталіцкую семінарыю, у 1916 — Каталіцкую акадэмію ў Пецярбургу. Ці такое магчымае, нарадзіўшыся ў 1898 г.?

Дарэчы, пра ўсе складанасьці лёсу Гадлеўскі піша ў аўтабіяграфіі. Спярша 2 гады жыў у роднай вёсцы. Пасьля бацькі ў пошуках хлеба часта мянялі месца жыхарства. Калі Вінцэсю было 5 гадоў, бацькі вярнуліся ў Шурычы. Купілі тады дом у Поразаве і там Вінцэсь пачаў навуку ў народнай школе. Закончыў яе "першым вучнем" праз дзве зімы ў 1899 годзе. Пасьля бацькі пераехалі (у пошуках працы) у Варшаву, дзе Вінцэсь паступіў у гімназію і вучыўся ў ёй 3 гады (да 1903 г.). З Варшавы бацькі пераехалі ў Коўна — усё ў пошуку працы. Вясной 1904-га зноў апынуліся ў Шурычах. Там Вінцэсь склікаў вясковых дзяцей і пачаў вучыць іх грамаце за сімвалічную аплату. Сабраўшы крыху грошай, паехаў у Гародню, дзе, правучыўшыся зімой з 1905 па 1906 год, здаў экзамен. Вярнуўся ў вёску і далей вучыў дзяцей. У 1907 годзе здаў экзамен у Віленскую духоўную семінарыю, дзе пачаў вучыцца ў 1908-м. Такі з большага быў шлях В. Гадлеўскага да сьвятарства.

Дарэчы, і далейшая сьвятарская і беларуская дзейнасьць В. Гадлеўскага вымагае грунтоўнага вывучэньня і асэнсаваньня. Чытаючы артыкул у "Голасе Радзімы", заўважыла недакладнасць у каталіцкай "службовай" тэрміналогіі. Хачу патлумачыць: прэфэкт — гэта не начальнік польскай гімназіі, а настаўнік рэлігіі, дакладней, ксёндз, які навучае рэлігіі ў ёй. Другая тэрміналагічная заўвага адносіцца да капелана. Капелан — гэта не памочнік каталіцкага парафіяльнага ксяндза, а святар, які спаўняе функцыі ксяндза ў асобных капліцах або пасланы дзеля рэлігійнага абслугоўвання асобных груп вернікаў. В. Гадлеўскі якраз быў капеланам у шпіталі ў Вільні: абслугоўваў там хворых вернікаў-католікаў.

*Польшча.*



**ЛІТАРАТУРНЫЯ ЧЫТАННІ**

# ПРАЎДЗІВАЯ ГІСТОРЫЯ КРАІНЫ ХЛУДАЎ

**Алег МІНКІН**



### ДА ТАКОГА Ў БРЫГАДУ Я НЕ ПАЙШЛА Б!

Такім чынам, ачуўшыся ад зімовае сьпячкі, жыхары мястэчка даведаліся, што яны стаяць на парозе Адраджэньня. Прычасаўшы ўскудлачаныя валасы й старанна вычысьціўшы абутак, хлуды выйшлі на Пляц. І ўсе, як адзін, былі ў бэзавых шараварах, бо якая будзе іхняя новая апратка, яшчэ ніхто ня ведаў. Пад павевамі вясновага ветрыку шырокія шаравары надзімаліся й пачыналі ляскаць, як ветразі: вось чаму ў той дзень па ўсёй краіне было чутно несупыннае дробнае ляскатаньне. Аднак, нягледзячы на ўвесь гэты сьвяточны вэрхал, настрой у хлудаў быў дваякі. З аднаго боку, яны былі задаволеныя, што ўсім абрыдлы лад жыцьця нарэшце здратаваны, з другога ж боку, ім было крыўдна, што такая значная падзея, як Адраджэньне, пачалася падчас зімовае сьпячкі. Прычым большасць хлудаў вінавацілі ў гэтым Хіцера Зьміцера, які не пажадаў своечасова пабудзіць іх. З тае нагоды былыя багемаўцы — а яны лічылі сябе больш таленавітымі, чым новы хлудзкі гаспадар — абменьваліся зьедлівымі ўсьмешкамі, не асьмельваючыся аднак сказаць уголас тое, пра што яны думалі.

Калі Хіцер Зьміцер узышоў на трыбуну, дык на нейкі час храбусьценьне ягонай камізэлькі заглушыла паляпваньне многіх сотняў бэзавых шараварaў. "Ах, гэтае храбусьценьне нагадвае стракатаньне вясёлкавых крылцаў стракозаў, абуджаных веснавым цяплом", — пагадзіліся ўражаныя хлудкі. І толькі былая арыстакратка Гарэзія Набіванка, якая кагадзе вярнулася з будаўніцтва канала, навяла на новасьпечанага гаспадара немаведама дзе ўзятую ларнэтку й, перакінуўшы цыгарэту з правага кутка рота ў левы, хрыпата прабасіла: "Да такога ў брыгаду я не пайшла б!" Пасьля чаго смачна сплюнула на наваксаваны штыблет Шампанскага. Іншаземец міжволі адхіснуўся ад яе й рукою, засунутай у кішэню, памацаў свой замежны пашпарт.

Між тым Хіцер Зьміцер моўчкі стаяў на трыбуне. Чорная скуранка прыгожа аблягала ягоную прысадзістую постаць. Сваё крэда ён даўно выказаў на старонках падпольнай газэты й мовіць яму, па-сутнасці, не было пра што. І толькі пры самым канцы, калі ўжо натоўп зьбіраўся быў разысьціся, Хіцер штомоцы выгукнуў: "Грамадзяне! Заменім бэзавыя шаравары на бэзавыя хусткі!" Пасьля гэтага закліку хлуды гучна запляскалі ў ладкі і ў адзіным памкненні сарвалі зь сябе бэзавыя шаравары. Некалькі параў знойдзеных тут жа нажніцаў пашлі па руках, і неўзабаве на шыі кожнага з прысутных на плящы красавалася бэзавая, завязаная на два вузлы хустка.

### ПРЭЧ ЗЬ ІХНЯЙ ДАРОГІ!

Пасьлядоўна ажыцьцяўляючы падпольную праграму рухавых, Хіцер пераназваў вуліцу Цмока Калывока ў вуліцу Энтузіястаў, а па некаторым часе арганізаваў засыпку канала. Дзеля гэтага сьмецярам былі выдадзеныя насілы й рыдлёўкі. І закіпела праца! Сьмецяры, абліваючыся потам, закопвалі кляты канал, а сьвяточна апранеыя, з бэзавымі хусткамі на шыях хлуды шпацыравалі поруч і зь нейкім цнатлівым зьдзіўленнем казалі: "Хутка мы пабудуем тое, да чаго імкнуліся вякамі!" Зразумела, хлуды ніколі нікуды не імкнуліся, тым больш вякамі, аднак, відавочна, меркавалі, што кажучы так, яны таксама бяруць удзел у справе вялікага Адраджэньня.

Тымчасова над галовамі хлудаў-энтузіястаў пачаў кружляць зіхатлівы, невядомага паходжаньня эліпсоід. Безумоўна, само па сабе даволі дзіўна, калі ў цябе над галавою лунае нейкі дзіўны, серабрысты лятак, аднак, калі тое тычыцца Адраджэньня ды яшчэ адбываецца падчас гістарычнай засыпкі канала, — тут ужо няма нічога дзіўнага. І таму хлуды хутка перасталі назіраць за зіхатлівым эліпсоідам і зноўку пачалі казаць адзін аднаму: "Цяпер кожны з нас — спружына гісторыі!"

А ўсімі забыты эліпсоід, вясёлкава зьзяючы, імкліва падплыў да мура Высокага квадратнага паркану, натыркнуўся на яго, споўз долу й перакінуўся ў старога з падарожным кіем у руцэ й цёмных акулярах на твары. Гучна стукаючы па бруку праспэкта Маралістых-эквілібрыстых сваім кіем, ён вярнуўся туды, дзе адбывалася гістарычная засыпка, і, палохаючы хлудаў сваім напышлівым выглядам, некалькі разоў прадэфіляваў па краі канала, нібыта незнарок сьпіхваючы разявакаў у незакапаныя яшчэ яміны. Пры гэтым ён не прасіў прабачэньня, а толькі глуха паўтараў: "Прэч зь іхняй дарогі!"

Адвячоркам былыя багемаўцы, што зноў пачалі зьбірацца ў шынку "Грукат сэрца", па-рознаму трактавалі загадкавую фразу фанабэрыстага сьляпца ў цёмных акулярах, аднак праўдзівага тлумачэньня так і не знайшлі.

### УСЁ ДЛЯ СЬМЕЦЯРА!

Паколькі новы ўрад абвясьціў, што ўсялякае меркаваньне мае права на жыццё, то адразу зьявілася процьма такіх меркаваньняў. Датычылі яны пераважна так званага "духоўнага жыцьця" або "жыцьця духу", а таксама славутай "духоўнай смагі". І хоць пытаньне палягала толькі на тым, ісыуюць гэтыя паняцьці ў сапраўднасьці ці яны — спроба ўратавацца ад цёмных інстынктаў ды спрадвечнай прыкутасці хлудаў да "Горкага палыну", — спрэчкі наконт духоўнай смагі так захапілі мястэчка, што хутка амаль не засталося тых, хто ні пра што не спрачаўся, не адстойваў аніякіх меркаваньняў, а займаўся звычайнаю будзённаю працаю. У выніку вуліцы, якія цяпер ніхто не прыбіраў, апынуліся пад тоўшчаю сьмецьця й зараслі такім бадыльлём, што пад ягоным суцэльным покрывам немагчыма было адрозьніць, хто з кім і пра што спрачаецца.

Каб ўратаваць становішча, урад рухавых стварыў у сямейным інтэрнаце сьмецяроў выдавецтва "Усё для сьмецяра!" Папершае, там выпускалі творы кожнага, хто працаваў у выдавецтве, па-другое, там быў наладжаны выпуск тыднёвіка "Як працаваць за семярых". Тыднёвік быў прызначаны адмыслова для сьмецяроў і, паводле задумы ягонага заснавальніка прахвэсара Вуха Перакідніка, павінен быў значна паўплываць на Адраджэнне Хлудзіі. Аднак сьмецяры мала ня ўсе заставаліся непісьменныя й толькі моўчкі разводзілі рукамі, калі гожыя працаўніцы друкарні прыносілі ім новыя й новыя стосы прапахлых друкарскай фарбай часопісаў. Ды сказаць што-небудзь уголас яны, паводле сваёй даўнай завядзёнкі, не адважваліся. На іх шчасьце, выдавецтва "Усё для сьмецяра!" пасьля выхаду шаснаццаці нумароў было скасаванае.

Кіраўнічая роля ў вырятаваньні Адраджэньня перайшла з гэтага моманту да фабрыкі-кухні парадаксальных ідэяў. Там тэрмінова былі адчыненыя два новых факультэты па вывучэньні багатае палітычнае й паэтычнае спадчыны новага гаспадара. Навучэнцы першага факультэту называлі сябе "хіцеразнаўцамі" і вывучалі ўзьдзеяньне ідэяў Хіцера Зьміцера на сонечную актыўнасьць. Студэнты другога факультэту, "зьміцераведы", дасьледвалі ўплыў твораў лідэра рухавых на анамаліі ў тоўшчы зямной кары. Па большасці пытанняў паміж факультэтамі йснавалі вострыя супярэчнасьці. І толькі ва ўжываньні "Горкага палыну", які зрабіўся на той час галоўным дзяржаўным дэфіцытам, было поўнае аднадушша і ўзаемаразуменьне.

### З ДНЁМ НАРАДЖЭНЬНЯ, ШАНОЎНЫ ІНШАЗЕМЕЦ ШАМПАНСКІ!

Іншаземец Шампанскі замовіў яшчэ адну пляшку "Горкага палыну", утульней уладкаваўся ў фатэлі й разгарнуў досыць пульхны, у блакітнай вокладцы сшытак: "Што хлудам трэба для шчасьця? Трохі каханьня, жменька зорак над галавою, кропля спагады...". Шампанскі кпліва, але з дрэнна прыхаваным сумам усьміхнуўся, бо гэтыя радкі належалі яму, а блакітны сшытак, які ён трымаў у руках, быў дзённікам ягонага жыцьця.

"Ні адсутнасць "Горкага палыну", ні так званае Адраджэньне не перашкодзіць мне, іншаземцу Шампанскаму, адсьвяткаваць як мае быць дзень нараджэньня, бо мой дзень нараджэньня важнейшы ад усяго, што адбываецца й будзе адбывацца ў гэтай клятай краіне..." — так прыблізна думалася Шампанскаму, калі ён на хвілю адарваў позірк ад сваіх юнацкіх запісаў у дзённіку. У гэты момант шынкар Лажбель, пачціва схіліўшыся, паставіў на стол замоўленую пляшку.

— Жыцьцё, гм, жыцьцё, — з водценем сарказму прамармытаў Шампанскі.

— З днём нараджэньня, шаноўны іншаземец Шампанскі! — узрадаваўся, што Шампанскі загаварыў зь ім, Лажбель і без запрашэньня прысеў пры ягоным століку. Ён здаўна ведаў, што менавіта з блакітным сшыткам Шампанскі штогод прыходзіць у шынок адзначыць свой дзень нараджэньня.

— Так, жыцьцё гэта ня мёду піцьцё, — удакладніў сваю думку Шампанскі й, наліўшы чарку, тут жа асушыў яе. Пасьля чаго зьбіраўся быў зноў занурыцца ў чытаньне, ды дзьверы шынка раптам з трэскам расчыніліся — і ў залю ўваліліся гурма рухавых. Яны замовілі агромністы збан "Горкага палыну", ссунулі сталы, шумна расьселіся й пачалі абмяркоўваць апошні памфлет Хіцера Зьміцера "Сьмецьце грамадзтва, або Грамадзтва й ягонае шалупіньне". Шампанскі прыслухаўся й зразумеў, што верхавод рухавых даказвае, нібыта невысокі інтэлектуальны ўзровень сьмецяроў у цяперашні час можна павысіць толькі шляхам зьніжэньня высокага інтэлектуальнага ўзроўню багемаўцаў. Зьедлівая ўсьмешка прабегла па вуснах іншаземца, і, верагодна, заўважыўшы яе, падняўся з-за стала кажанаваты, рухавы, скіўцы якога нагадвалі рухомыя шуфляды пісьмовага стала.

— Ты, я бачу, інтэлігент. Можа, нават, іншаземец, — пахмура прамовіў ён, спыніўшыся перад сталом Шампанскага. — Чаму б табе не перайсьці да нас? Нам зараз такія патрэбныя!

— А вось ты... Дзеля чаго ты жывеш? — не стрываў Шампанскі.

Усталявалася цяглівая пярэрва.

— Гэта не пытаньне, — надта ўжо спакойна па некаторым часе азваўся кажанаваты. Затым крута павярнуўся й скіраваў да сваіх таварышоў. Скіўцы ягоныя пры гэтым рухаліся то назад, то наперад.

Калі рухавыя, не разьлічыўшыся, нарэшце сышлі, Шампанскі таксама падняўся. Гумор быў сапсаваны, і яму хацелася дамоў. Аднак у сенцах шынка яго спыніла знаёмая квадратная постаць. Ягоны нядаўні суразмоўнік, заціснуўшы між масыўнымі скіўцамі казіную ножку, праз зубы працадзіў:

— Ты навошта спытаў, дзеля чаго я жыву?

— Гэта не пытаньне, — стомлена адказаў Шампанскі.

— Гэта не пытаньне! — цьвёрда паўтарыў кажанаваты, і цяжкі, нібы прас, кулак апусьціўся на голаў Шампанскаму. Потым другі прас праехаўся па ягоным правым воку.

У вачох у іншаземца заскакалі срабрыстыя зьнічкі, а затым насунулася глыбокая й прыемная цішыня...

Калі Шампанскі зь цяжкасьцю расплюшчыў вочы, ён убачыў над сабою твар шынкара Лажбеля. Ухапіўшыся, бы за ратавальнае кола, за Лажбелеву шыю, ён таксяк дадыбаў да прыбіральні. Там ён спыніўся каля люстра, пакратаў агромністы сіняк пад правым вокам і скрывеліўся ад болю. І раптам яму памірсцілася, што набілі яго не ўпершыню, што ён ужо некалі адказваў кажанававаму на ягонае пытаньне, ці на нейкае іншае, падобнае да гэтага, — і тым разам кажанаваты курыў якраз такую самую казіную ножку.

Зьнячэўку казіная ножка ў распаленых мазгох Шампанскага падвоілася, патроілася, — і вось ужо перад ім сотня, тысяча, тысяча тысячаў казіных ножак і рухавых, якія трымаюць іх у зубах. Усе яны задаюць тое самае пытаньне, а затым кулакамі, падобнымі да прасаў, б'юць яго па галаве. І Шампанскаму зрабілася як ніколі зразумела, што звычка бачыць у існым нейкую канкрэтную мэту, спадзявацца на тое, што Хлудзія паступова набліжаецца да нейкага аддаленага ў часе стану дасканаласьці, — гэта нахабны самападман, фатамаргана. І нямашака, і ніколі не было й ня будзе пад хлудзкім небам нічога такога, чаго ўжо не было раней. Нібыта дзівосны ланцуг падзеяў і ўчынкаў віецца па замшэлых мурах квадратнага паркану й бясконцае мноства разоў перацінае сам сябе. І ня мае ні пачатку, ні канца... "Кола замкнулася!" — прашаптаў Шампанскі, сунуў галаву пад кран і пусьціў ваду.

### ХЛУД ПАВІНЕН БЫЦЬ НЕРУХОМЫ!

Яшчэ на пачатку восені за кубкам кавы прахвэсар ФКПІ Вух Перакіднік заўважыў: "Ужо сам факт існаваньня рухавых дапускае магчымасьць узьнікненьня нерухомых". "Жыхароў краіны, якім спакон вякоў уласцьцівыя нерухомасьць і абыякавасць да ўсяго, апроч "Горкага палыну", наўрад ці каму ўдасца вывесьці са звыклага ім стану, бо, відавочна, тая духоўная раўнавага, у якой яны захрасьлі, настолькі ж непазнавальная, як і паняцьце "праца". Пакуль што гаспадар Хіцер Зьміцер, апанаваны ідэямі Адраджэньня, шмат разважае аб працы, аднак ніхто з хлудаў ня ведае, што гэта такое. І сам я зьдзіўляюся, калі вымаўляю слова "праца". Нібыта Нябачны торгае мяне за невідочныя ніткі, і рот мой адкрываецца й закрываецца ў тахт: пра-ца, пра-ца...", — разважаў прахвэсар далей, смакуючы каву.

Першы нерухомы быў той самы Цмок Кавылок, які зьявіўся ў Хлудзіі гэтак жа таямніча, як і калісьці. Ён прызямліўся на паветраным шары перад трыбунаю на пляцы, зь якой прамаўляў Хіцер Зьміцер, зь нейкім бліскучым прадметам на левым плячы. Апусьціўшыся, Цмок саскочыў зь вечка куфра, прымацаванага да шара, страсянуў пыл з напаўвайсковага фрэнча й страявым крокам скіраваў да трыбуны. І тады ўсе ўбачылі, што на ягоным плячы — велізарны сталёвы венік! Адзін толькі Хіцер Зьміцер, здавалася, не заўважаў гэтага. "Падмурак маёй праграмы, — працягваў ён, — выбавіць краіну ад абыякавых і нерухомых! Ні хвіліны спакою! Аніякае інэртнасьці й пасыўнасьці!" І толькі калі Цмок узьлез на трыбуну й стаў поплеч зь ім, Хіцер павярнуў голаў і зьмерыў суперніка суровым зьневажальным поглядам. Так, незадаволена пераглядваючыся, яны прастаялі досыць доўга. І ўсе прысутныя на пляцы выразна ўбачылі, што яны, як тыя блізьняты, кропля ў кроплю падобныя адзін да аднаго. Розьніца была, бадай, толькі ў сталёвым веніку ды яшчэ ў тым, што на Хіцеру Зміцеру пабліскавала чорная камізэлька, а Цмок быў апранены ў выцьвілы напаўвайсковы фрэнч. Апроч гэтага, на твары верхавода рухавых сядзелі чорныя акуляры, якія калісь належалі Цмоку, а Цмок, натуральна, быў без такіх акуляраў, у зьвязку з чым несупынна плюскаў вачыма. Аднак самі супернікі, здавалася, не заўважалі свайго незвычайнага падабенства.

— Вада павінна быць мокрая! Хлуд павінен быць нерухомы! — выгукнуў нарэшце Цмок і, палюбаваўшыся на ўражаных ягоным выгукам хлудаў, дадаў: — Аснова маёй праграмы — захаваць нашыя шыхты ў цэласьці! Маё крэда — нерухомасць і самазаглыбленасьць!

У доказ сваіх словаў прамоўца з трэскам разадраў фрэнч у сябе на грудзёх так, што залацістыя гузікі пстрыкнулі пад ногі і без таго ўражаным хлудам.

— Не лічыце гэта пустой пахвальбою! Калі трэба будзе пайсці на ўсё, мы, нерухомыя, пойдзем на ўсё! — скончыў Цмок пасьля эфэктоўна вытрыманай пярэрвы й пераклаў венік зь левага на правае плячо. Гэтым жа днём па ўсёй Хлудзіі пракацілася хваля мітынгаў і дэманстрацыяў нерухомых, падчас якіх, апрача разрываньня кашуляў, была сфармуляваная Першая праграма нерухомых.

**Працяг.**
**Пачатак у №№ 29, 30.**

«АЎЦЮКІ—2000»

*На фестывалі ў Аўцюках з дасціпнымі анекдотамі маглі сапернічаць хіба што прыпеўкі. Яны сыпаліся, як жалуды з дуба. Каму ў лоб, таму балюча. Усім астатнім — смешна. У памяці і ў блакнотах назапасіў багата гэтай вясёлай мудрасці. Перападала ўсім, а мне, як аўтару кніжкі пра аўцюкоў, найбольш. Здаецца, нідзе не чуў іх раней. Дык хай і станўць яны на векі вечныя аўцюкоўскімі напевамі.*

*Уладзімір ЛІПСКІ.*

Мяне Аўсяннікаў праводзіў,
Усю дарогу цісну.
У кішэні шалік быў —
Мабыць, ён і свіснуў.

Ох, дзеўкі мае,
Што я адчыбучыла!
Начаваў ў мяне артыст,
Я ж яго замучыла!..

Мілы дома не начуе,
Раніцай з'яўляецца.
Пазваню я Лукашэнку,
Хай з ім разбіраецца.

Усю бульбачку паелі
Каларадскія жукі,
Макаронаў наямося —
Абы былі мужыкі.

Што ж ты, Ліпскі,
не прыйшоў,
Як я цябе клікала,
Я ўсю ночку, як цялічка,
На пасцелі брыкала.




Папулярнасць дзвюх беларускіх вёсачак — Малыя і Вялікія Аўцюкі — ужо даўно выйшла за межы Калінкавіцкага раёна, дзе яны знаходзяцца. А славяцца яны сваім іскрамётным народным гумарам — таму і лічацца абсалютна заслужана беларускай сталіцай смеху, накшталт знакамітых Габрава ў Балгарыі і Адэсы на Украіне. Нядаўна тут адбыўся III Усебеларускі фестываль народнага гумару "Аўцюкі — 2000". Прыехаць на яго маглі ўсе, хто любіць смех і розыгрышы. Трэба было выканаць толькі адну ўмову — "калі будзеце ехаць у Аўцюкі — забудзьце пра мацюкі, бярыце добры настрой і мех для смеху" ды прайсці праз "Вясёлую мытню", дзе ад вас патрабавалі валюту — дасціпны жарт ці анекдот, выдавалі візу і ставілі пячатку на любую частку цела. Далей ужо вы траплялі ў сапраўднае царства смеху. Тры фестывальныя дні не дазвалялі засумаваць нават на хвіліну. Гасцінныя аўцюкоўцы якіх толькі конкурсаў ні прыдумалі — "Анекдот — у народ", "Гудзець дык гудзець", "Гуляй, душа, з усмешкай", "Хто ў хаце гаспадар". Калі пашанцуе, можна было і прыз выйграць — пеўня вясковага ці курыцу гарадскую, дыпламаванага барана ці ганарлівага парсючка. А ўсе паўналетнія госці і ўдзельнікі свята (з дазволу міліцыі) маглі азнаёміцца з дзейнасцю 40-градусных "Бульбулятараў па-аўцюкоўску" — так вяскоўцы называюць свае самагонныя апараты. Ды што там азнаёміцца, не забаранялася і прадэгуставаць іх прадукцыю! У дзяцей былі свае забавы — пакатацца на кані Ліпскі, пагуляць у казачным дзіцячым гарадку...

Свята сапраўды ўдалося. Нездарма сюды прыязджаюць замежныя дэлегацыі і творчыя калектывы з усіх абласцей Беларусі. Сёлета гасцямі фестывалю былі кампазітар Ігар Лучанок, парадзісты Уладзімір Радзівілаў, Георгій Волчак, тэатр "Хрыстафор", паэты Генадзь Бураўкін, Сяргей Законнікаў ды шмат іншых творчых асоб. А арганізавалі гэтае свята Міністэрства культуры краіны, Гомельскі аблвыканкам, Калінкавіцкі райвыканкам і Беларускі дзіцячы фонд.

**НА ЗДЫМКАХ: у час свята ў Аўцюках.**

**Фота БелТА.**






ТВОРЧАСЦЬ ЗЕМЛЯКОЎ

# БРАСЛАЎСКІЯ ЗАРНІЦЫ

**Словы В. ВАЛОДЗЬКІ** **Музыка А. РУДЗЬ**




Золкай пароюю ніцай
Час мне маёвы сніцца:
Блізкія бліскавіцы,
Бацькаўшчыны зарніцы.

З хорам ляснога птаства,
З водарам медуніцы
Свята майго юнацтва —
"Браслаўскія зарніцы".

Добрая ёсць нагода
Нізка вам пакланіцца,
Талент майго народа —
"Браслаўскія зарніцы".

Золкай пароюю ніцай
Час мне маёвы сніцца:
Блізкія бліскавіцы,
Бацькаўшчыны зарніцы.

*Прыпеў:*
Некалі ўсе мы будзем
Бачыць з нябёс званіцаў:
Граюць на радасць
людзям
"Браслаўскія зарніцы".

КРЫЖАВАНКА

## ПЕРАКЛАДЗІЦЕ НА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ.** 1. Сердечность. 5. Отчетливость. 7. Левкой. 8. Благодарность. 10. Исполнитель. 12. Щур (птица). 13. Скворец. 15. Направление. 17. Створка. 18. Чай. 19. Движение. 20. Пион. 22. Взор. 25. Лакомство. 28. Лепесток. 29. Жажда. 32. Жасмин. 33. Октябрь. 34. Положение.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ.** 1. Стекло. 2. Карандаш. 3. Представитель. 4. Ложь. 5. Случай. 6. Тетерев. 9. Ценность. 11. Любитель. 14. Отделка. 16. Кузнец. 18. Звук. 21. Копилка. 23. Девушка. 24. Февраль. 25. Лекарство. 26. Черта. 27. Судьба. 30. Вкус. 31. Сумрак. 32. Мясной прилавок. 33. Угол.



**Склала Л. ЮНАВА.**

СМАЧНА ЕСЦІ!

### КАТЛЕТЫ ПА-БЕЛАРУСКУ

Ад тушкі курыцы аддзяліць вялікае і малое філе з костачкай ад крыла, ачысціць ад плеўкі і сухажылляў і адбіць. Прыгатаваць фарш: рэпчатую цыбулю нарэзаць і абсмажыць, асобна падсмажыць ялавічную пячонку, два разы прапусціць праз мясарубку, дабавіць смятану, соль па густу і перамяшаць.

На вялікае філе курыцы пакласці фарш, завярнуць і прыдаць вырабу форму катлеты так, каб костачка засталася зверху. Затым катлету намачыць ва ўзбітым і разведзеным малаком яйку і запаніраваць у сухарах з чэрствага белага хлеба. Паўтарыць гэта два разы. Катлеты абсмажыць у фрыцюры і пакласці на грэнкі з белага хлеба. На гарнір падаць бульбу, смажаную ў фрыцюры, і зялёны гарошак, прагрэты ў сваім соку.

Для афармлення стравы з малога адваранага філе і вэнджанага рулета выразаць грэбень, пакласці яго на катлету, а на костачку надзець папільётку з паперы.

Дабавіць свежыя памідоры ці марынаваныя грыбы, упрыгожыць зяленівам пятрушкі ці кропу.

***800 г філе курыцы, 120 г ялавічнай пячонкі, 0,5 цыбуліны, 2 сталовыя лыжкі смятаны, 1 яйка, 2 сталовыя лыжкі паніровачных сухароў, 120 г белага хлеба для грэнак, 200 г зялёнага гарошку, 8 бульбін, топленае масла, зяленіва, соль.***

«Голас Радзімы»

**Намеснік галоўнага рэдактара Галіна УЛІЦЁНАК**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:

**Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом "Радзіма".**

РЭДАКЦЫЯ:

Намеснік галоўнага рэдактара **Галіна УЛІЦЁНАК.** Адказны сакратар **Таццяна КУВАРЫНА.** Рэдактар аддзела — член рэдкалегіі **Яўген ЛЕЦКА.** Рэдактар аддзела **Алена СПАСЮК.** Аглядальнікі **Юрась ЛЯШКЕВІЧ, Леанід МАРАКОЎ, Таццяна ХРАПІНА.** Спецыяльны карэспандэнт **Нэлі ПРЫВАЛАВА.** Рэдактар-перакладчык **Святлана КАРПУЧОК.** Стыльрэдактар **Ірына КАЗЛОВА.** Тэхнічны рэдактар **Данута РАКАВЕЦ.**

**НАШ АДРАС: 220005, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 44.**

**ТЭЛЕФОНЫ: (+375-17) 213-31-97 (тэл.-факс), 213-32-80, 284-76-56, 213-37-82.**

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.
Падпісны індэкс у Беларусі 63854.
Тыраж 1 652 экз.
Зак. 1871.
Падпісана да друку 31.7.2000 г. у 12.00.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).